
Кніга пра цуд →5


# Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714






http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 12 (3071) Год LX Беласток, 22 сакавіка 2015 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Паэт пахаў і смакаў Бацькаўшчыны

**Штотыдзень, кожны чацвер, у нашай рэдакцыі з'яўляецца Віктар Швед за найнавейшым нумарам «Нівы». Прысеўшы за пісьмовым сталом, з ходу распачынае перачытваць палосы свайго тыднёвіка. Пасля першага азнаямлення, развітваецца з усімі і роўным, бадзёрым крокам накіроўваецца ў сваю кватэру на беластоцкіх Дзесяцінах. Карыстаючыся нагодай, паставілі мы некалькі пытанняў нашаму ніўскаму аўтару, якому 23 сакавіка споўніцца роўна дзевяноста гадоў. Многае лета Вам, Спадар Віктар!**

**«Ніва»: — Перад намі свежы нумар газеты. У рэпартажы Аляксандра Вярбіцкага бачым здымак выводнага крыжа з Вашай вёскі з даволі загадкавым надпісам: «О здравии парней и девушек дер. Мора принимавших участие в торжестве. 30 XII 1956». Пра якое важнае святкаванне ідзе мова на гэтым крыжы? Ён стаіць з боку Крывятыч.**

Віктар Швед: — Я паходжу з другога канца вёскі. Такім, як на здымку, я гэтага крыжа не помню. Здаецца, што літары на ім свежа адноўленыя. Калі ідзе пра падзею, пра якую сцвярджаецца на крыжы, мне прыходзіць думка, што гэта будзе ўрачыстае асвячэнне новапабудаванай могілкавай царквы св. Прарока Ільі. Царкву будавалі пасля вайны, на пераломе 40-х і 50-х гадоў, а ў 1956 годзе яе асвяцілі. Менавіта царкоўны фэст на Ільо пачалі ў нас святкаваць толькі пасля Другой сусветнай вайны. Раней, так як у суседстве, усе спраўлялі Ганну — 7 жніўня. Справа ў тым, што нашую старую капліцу на могілках у чэрвені 1941 г. спецыяльна падпалілі савецкія салдаты, уцякаючы перад немцамі. А новую, збудаваную ўжо пасля вайны, мясцовыя жыхары ахвяравалі ў памяць старазапаветнага прарока.

Гэтая справа не дае мне спакою. На святкаванні майго юбілею мае прыехаць солтыс з Мора і мой сардэчны знаёмы Ян Шыла, які запрашае мяне заўсёды ў госці, калі я прыязджаю ў родную вёску на Ільо 2 жніўня. Разам з Вярбіцкім мы дакладна распытаемся ў іх пра тое.

**«Ніва»: — Дык давайце яшчэ пра мінулае. Не старазапаветнае, але пра Вашае дзяцінства. Як успамінаеце, да чацвёртага года жыцця Вы амаль нічога не бачылі на вочы з-за хваробы. Мусілі сядзець днямі ў дзедавым доме і хавацца перад сонечнымі праменямі. У такім выпадку ў Вас пэўна значна мацней развінулася асабістае адчуванне акружаючага паху і смаку. Якія пахі і смакі ідуць за Вамі аж па сённяшні дзень?**

Віктар Швед: — У першую чаргу сушаныя грушы і сырыя яблыкі. Усё лета сушыла іх мая мама ў печы, а іх пах напаўняў увесь дом на доўгія месяцы. А потым восенню ці зімой бацька прыносіў з гары ў перакуску жменю сухіх фруктаў, або сакавітыя яблыкі, як самы смачны ласунак. Ну і вэнджаная каўбаса ў каморы. Зачароўвала страўнік і нос. Ну і пахла паветра ў двары сваімі порамі года. І калі я пабачыў гэты свет ужо на свае вочы, то мне здалося, што я апынуўся ў раі. І гэта, мабыць, было імпульсам для таго, што я пачаў складаць рыфмаванкі на сваёй гаворцы стаўшы пастушком, а потым і з'явіліся дзіцячыя вершыкі. І сам не ведаю адкуль гэта ўсё ўзялося...

**«Ніва»: — Але тут нічога дзіўнага. Вакол гучала толькі сакавітая, родная, беларуская гаворка са сваім яшчэ натуральным, духоўным багаццем, фальклорнай і абрадавай спадчынай. А ў кожнай песні абавязкова добрая рыфма. І ў жартоўных, і пра каханне, і ў рэкруцкіх. Увахodзіла і заставалася ў сэрцы і душы.**

Віктар Швед: — Так... напэўна з песень. Я з дзяцінства ўвесь час іх слухаў. Мая родная сястра Ніна мела вельмі прыгожы голас і не магла жыць без спеву. Спявала сама і з сяброўкамі. Каля нашай хаты іхнія спеўкі гадзінамі разліваліся на-


фота Міры ЛУКШЫ

вокал. Я па сённяшні дзень вельмі люблю ўсялякую музыку і часта праводжу свабодны час у канцэртных залах.

**«Ніва»: — Кожнае дзіцё, а потым дарослы мае сваё любімае дрэва. Сімвалам беларускіх пісьменнікаў у Польшчы з'яўляецца белавежскі дуб. А з якім дрэвам асацыюе сябе і найлепш адчувае Віктар Швед?**

Віктар Швед: — А я сябе асацыюю з ляшчынай. Яна такая веснавая. Адна з першых прабуджаецца пасля зімы. Ну і я сакавіцкі, веснавы. Такое відаць нашае біялагічнае супадзенне прагі да жыцця. У пушчу ад нас ужо было далекавата. І пушча, і пушчанскія дрэвы для мяне не надта знаёмыя. А мой тата ў садзе пасадзіў цэлы радок ляшчыны. Расце яна даволі хутка і высока. І я ўлазіў нават на дзесяціметровую вышыню такога дрэва і абрываў з вяршка арэхі. Так любіў іх есці.

**«Ніва»: — А зубоў часам не паламалі на арэхах? Мне прыходзілася няраз аглядаць твары дзяцей і нават дарослых з эфектоўнай, шчарбатай усмешкай...**

Віктар Швед: — Не, ну што вы. Я быў асцярожны. Насіў з сабою малаточак і ім разбіваў арэх, каб дастаць ядро.

**«Ніва»: — Вы ўжо нам крыху раскрылі свой свет дзіцячых пахаў, смакаў і ўяўленняў. Але ў нашай памяці застаюцца таксама выразна самыя важныя маміныя і татавыя словы. Пра што яны былі?**

Віктар Швед: — Пра зямлю. Так як Зямля кружыць вакол Сонца, дык у выпадку маёй мамы і таты ўсё кружылася вакол уласнай зямлі. Асаблівай заядласцю вызначаўся тут мой бацька. Па прычыне зямлі ў нас заўсёды былі адны клопаты і перажыванні. Увесь міжваенны перыяд судзіўся ён з братам свайго бацькі за дзедаўскую спадчыну. Патраціў на гэта шмат часу, грошай і здароўя. Даведзены да адчаю перад самім выбухам вайны вырашыў усёй нашай сям'ёй з'ехаць у далёкую Аргенціну. Яму спадабаліся рэкламныя матэрыялы пра тое, што будзе мець на ўласнасць столькі зямлі, колькі дасць рады выкарчаваць тамтэйшых лясоў. Ужо афармляліся ўсе дакументы на выезд, але гітлераўскі наезд на Польшчу перарваў канчаткова задуманую справу. А як прыйшлі саветы, то сталі мы кулакамі. Іззноў з'явіліся праблемы. «Товарищи освободители» вызвалялі сістэматычна нас ад усяго таго, што напрацоўвалі ў вялікім трудзе і поце ўласнымі рукамі цягам года. Кулакамі і з высокімі падаткамі засталіся мы таксама ў пасляваенны, народнай Польшчы. Калі я ішоў вучыцца ў Варшаву, то ў анкеце схлусіў і напісаў, што я з малазямельнай сям'і. І што ў нас толькі чатыры гектары зямлі. А ў нас было іх дванаццаць, а яшчэ пяць дадатковых абраблялі ў сваёй цёткі. Але каб я напісаў праўду, ніколі не стаў бы студэнтам. Дзяцей кулакоў тады не прымалі ва ўніверсітэты.

працяг ☞10

«Ніва» № 12, 24 сакавіка 1957 г.

## Я беларус

Я беларус, як бацька мой і дзед,
Як прадзеды, якіх няма між намі.
У зямлі іх косці — гэта толькі след,
Што тут яны жылі перад вякамі.

Што гэты край і роднае сяло
Іх бацькаўшчынай былі ім заўсёды.
Хоць мала ясных дзён у жыцці было,
А вельмі многа бур і непагоды.

Я беларус, я сваёй роднай мовы
Яшчэ дзіцём вучыўся ад бацькоў.
Таму адно, з той мовы, нават слова
Мне даражэй, чым з іншых сотні слоў.

Я беларус і гэтым ганаруся.
Усім душу сваю магу адкрыць:
Ніколі і нідзе не адкажуся,
Што беларусам жыў і буду жыць.

9 770546 196000



# Тэктанічны зрух

Першыя тыдні вясны ў Беларусі падаюцца нейкім трывожным зацішшам. Маладыя людзі з уласцівым юнацтву аптымізмам радуюцца сакавіцкаму сонцу і цалуюцца на вуліцах. Прадпрымальнікі ўсхваляваныя і заклапочаныя новымі падаткамі, жывуць выключна сваімі меркантыльнымі інтарэсамі і ўсё спадзяюцца абдурыць дзяржаву, якая ўсё роўна іх перайграе і абдзярэ як ліпку. Апазіцыйныя палітыкі пералівають з пустога ў парожняе наконт так званых выбараў, так і не ў змозе заняць цвёрдую і прынцыповую пазіцыю. Грамадскія актывісты, змучаныя авітамінозам і дваццацігадовым ціскам, у дэпрэсіўным псіхалагічным стане. Беларускія літаратары раздзьмулі буру ў шклянцы вады і спрачаюцца, хто болей для маці-літаратуры робіць. Уладныя структуры, якія мусяць трымаць дзяржаўныя інстытуцыі ў тонусе, працягваюць цягнуць за свае вяровачкі і шукаюць спосабаў, дзе яшчэ прышчаміць няшчаснага чалавека. Чыноўнікі наскардзіліся ў Магілёве сілавым структурам на іх абразу і апошнія ў сваім стылі правялі некалькі ператрусаў з забіраннем камп'ютараў. Але ў цэлым зацішша. Нават на мяжы няма ніякіх чэргаў і ажыятажу. Нават Дар'я Домрачава перастала прыносіць медалі айчыннаму біятлону. Нават вярхоўны галоўнакамандуючы не парадаваў ні сваіх прыхільнікаў, ні нядобразычліўцаў за астатні час нейкімі новымі крылатымі выслоўямі.

І ўсё ж не пакідае адчуванне зацішша перад паводкай. Хоць паводкі прыроднай з-за браку снегу ніяк не чакаецца. Крыніца трывогі ўсё ж тая — расійская ваенная агрэсія. Хісткае перамір'е, усталяванае пасля захопу цэлага кавалка ўкраінскай тэрыторыі, не павінна нікога ўводзіць у зман. Вайна ідзе далей, яна працягваецца. Вайну намнога лягчэй пачаць, чым яе скончыць. Асабліва, калі адбыўся цэлы зрух масавай свядомасці, гэткае тэктанічнае ссоўванне нябачных плітаў, што прыводзяць у рух пласты зямлі. Калі абуджана столькі злосці.

Відавочна, што новага вітку маскоўскай агрэсіі варта чакаць бліжэй да гістарычнай даты — так званага дня „великой победы" — сямідзясятых угодкаў з часу заканчэння Другой сусветнай вайны. У Масквы гэта апошні гістарычны міф, на якім яна будуе сваю ўяўную веліч. Вайна для ўсіх прыхільнікаў СССР сапраўды не закончылася, нават праз гэтыя 70 гадоў. Таму цэлы час нарастае мілітарысцкая рыторыка, таму дагэтуль выкарыстоўваецца тагачасная лексіка, цяпер ужо ў дачыненні да ўкраінскага народа. Хоць насамрэч — ідэалагічны пераемнік гітлераўскага фашызму — менавіта сённяшні крамлёўскі рэжым. І незалежнай Беларусі ў планах Масквы ніяк няма. Нездарма дваццаць гадоў рукамі мясцовых пераваратняў яна вынішчала ўсё беларускае. Нездарма ўсе гэтыя гады перла сюды сваю зброю. Таму аншлюс Беларусі — пагроза рэальная і надзвычай верагодная. Апошнія трыста гадоў нашай зямлі ніколі не шанцавала, яе не абміналі ані разу палітычныя драпежнікі і прагныя заваёўнікі. Лёс беларускага народа быў заўсёды падобны і пераплецены з лёсам украінскага. Суседзі ўжо зазналі новую вайну і агрэсію маскоўскага захопніка, згубілі вялікі кавалак сваёй суверэннай тэрыторыі, фізічна страцілі тысячы людзей. Спадзявацца, што Беларусь абміне падобнае — прынамсі наіўна. Тэктанічныя палітычныя зрухі заўсёды выклікаюць землятрус. Пытанне толькі — якой ён будзе сілы. Але ўжо відавочна, што зло і нянавісць набралі абароты, увайшлі ў сілу і патрабуюць новых ахвяр.

А людзі не хочуць верыць у тое, што зноў будзе новая вайна, прыйдуць старыя-новыя акупанты, будуюць свае планы, чакаюць сапраўднай вясны і спадзяюцца на спакойнае жыццё. А можа сапраўды спадзяюцца на цуда.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Што смярдзіць вачам і вушам



Гэта ўжо амаль два тыдні, як мы нічога не ведаем пра прэзідэнта Расіі. Уладзімір Уладзіміравіч Пуцін знік, як быццам яго ніколі і не было. Расіянам вельмі цікава, што здарылася з іх вялікім правадыром. Ці не асірацію іх? І пакінуў падзіраўленую як друшляк дзяржаву, махнуўшы рукой на тое, што дрэйфуе яна да згубы? Інтэрнэт трасецца ад чутак. Тэорыі змовы кішаць, як прусакі ў смецьцевым вядры. Адна з іх асабліва смярдзючая. На думку яе аўтараў, Пуцін з самага пачатку быў віртуальным тварам, створаным у лабараторыях спецслужбаў Расіі. Гэта не ён кіраваў краінай, не ён анексаваў Крым, не ён нясе адказнасць за смерць тысяч людзей ва Украіне. Свет даў сябе падмануць поўнай ілюзіяй. Пуцін ніколі не існаваў. У яго фізічную постаць увасабляўся цэлы полк двайнікоў, адпаведна абучаных і дзейнічаючых па інструктажы тайных палітычных аніматараў. Так што гэтым можа растлумачана наяўнасць звышчалавечай прысутнасці Пуціна — прытым больш за дзесяць гадоў — як у сродках масавай інфармацыі, так і на камерных сустрэчах з журналістамі, і паралельна з палітыкамі, раз у ролі расійскага крутога мужыка, іншым разам чулага правадыра дзікіх гусей. Гэтая тэорыя, як і любая тэорыя, крыху трымаецца купы, але хто ведае, ці не кратовай купы. Хопіць звязаць факты.

У апошнім фельетоне я намякнуў пра крата, які заблукаўся ў мой агарод. Я паабяцаў сабе заключыць з ім бліжэйшыя адносіны. У нядзелю пад вечар я прытаіўся пад кустом язміну, і, вось, дачакаўся зламысніка! З-пад зямлі выслізнула нейкая такая знаёмая пысачка, крыху запэцканая. Калі ўбачыў мяне, замацярыўся і давай скандаліць, што хтосьці наклаў эмбарга на дажджавых чарвякоў і лічынак, і таму што ён нічога не можа ўпаляваць ды галадае. І, акрамя таго, што пры адсутнасці компаса, страціў ён кірунак. Я пашкадаваў бедалагу і даў яму два сухарыкі на шлях к чорту. І пайшоў ён. Але адважыўся, пакуль знік у падземных калідорах, спытацца ў мяне: — А што, я не ў Польшчы? — Ну што вы, — схлусіў я, цалкам свядомы адказнасці, якая спачыла на мне. — У Польшчу яшчэ о-го-го, доўгі шлях, — і паказаў яму супрацьлеглы кірунак. Ну і здзівіцца ён, калі выкапаць купу ў крамлёўскім агародзе, ха-ха...

У панядзелак раніцай я праверыў у інтэрнэце — яшчэ не дакапаўся да Расіі. Хто ведае, мабыць, памыліў Маскву з Мінскам? Або з Кіевам? Але пра гэта інтэрнэт маўчыць. Затое поўна ў ім усякай хрэні. Асаблівa ад часу, калі з'явіўся на ім сайт «Спутник», спансараваны расійскімі сябрамі і боўтаючы ў галовах карыстальнікаў інтэрнэту ілжывымі інфармацыямі. Ёсць там тэкст аб беднай Расіі, на якую заўзяўся ўвесь свет. І на яе высакароднага абаронцу, Пуціна, які робіць усё, каб прадухіліць ядзерную вайну. Вядома, хто імкнецца да яе... Польскія палітыкі, інспіраваныя ЗША. Асаблівасць прапагандавай маны заключаецца ў тым, што яна абапіраецца на элементы ісціны. Назавем яе манапраўдай. Яе праўдзівай часткай з'яўляецца тое, што расійцы пакутуюць ад абмежаванняў, накладзеных на іх краіну Захадам. Але што было гэтага прычынай? Хто лянівы, каб злучыць адну з адной у ланцуг падзеі, той паверыць нават у сцвярджэнне, што сланы сінія. Бо, калі няма ніякіх сумневаў, што яны не чырвоныя або зялёныя, то чаму б ім не быць сінімі? Ну, ці не так? Толькі што гэтая праўда смярдзіць вушам і вачам, дакладна ў адпаведнасці з анекдотам, які беражліва я захаваў у памяці. Хтосьці калісь гледзячы на брудныя эратычныя фатаграфіі заўважыў, што яны смярдзяць вачам. Гэтую моўную задуму прыняў адзін музычны крытык, вельмі неахвотны да праграмных эксперыментаў Чайкоўскага. Пасля яго Канцэрта для скрыпкі, які адбыўся ў Вене ў 1881 г., рэзка пакрытыкаваў кампазітара, напісаўшы: «На скрыпцы тут ужо не іграюць, толькі шарпаюць, раздзіраюць, б'юць... (...) У мяне ў першы раз непрыемная думка, што можа быць музыка, якая смярдзіць вушам». Ну, мне асабіста не смярдзяць кампазіцыі Чайкоўскага, але памятайце, што ў 1991 г. падчас дзяржаўнага перавароту Янаева, прадстаўніка крамлёўскіх «цвёрдагаловых», якія змагаліся за ўладу ў хілямчыся да краху СССР, рускае тэлебачанне ўвесь час пускала музыку з балета «Лебядзінае возера». Таго самага нявіннага Пятра Чайкоўскага! На самой справе, рыхтавалася тады смярдзючая справа, салодкая музыка Чайкоўскага мела заглушыць смурод. Ну, а што сёння пускаюць у расійскім тэлебачанні?

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Жахлівы рапарт (зноў жа)

Я толькі што прачытаў 150 старонак рапарту Міжнароднай амністыі (па-англійску: Amnesty International), які дакументуе сітуацыю з правамі чалавека ў 160 краінах у 2014 годзе. Аналагічныя рапарты распрацоўваюцца штогод. На гэты раз міжнародная няўрадавая арганізацыя ў пачатку дакумента, які не мае абавязковай сілы для ўсіх краін у свеце, падкрэсліла: «У цяперашні час мы з'яўляемся сведкамі гвалту ў масавым маштабе і агромнага бежанскага крызісу выкліканага ім. Не атрымалася распрацаваць эфектыўных мер па вырашэнні самых надзённых праблем». Затым адзначана ў ім у роўнай ступені трывожным тонам: «Савет Бяспекі ААН не справіўся з сітуацыяй і канфліктамі ў Сірыі, Іраку, Газе, Ізраілі і Украіне. Гэта адбывалася нават тады, калі дзяржаўныя і ўзброеныя групы здзяйснялі жудасныя злачынствы супраць мірнага насельніцтва. Пераважаў прагматычны разлік і палітычны апартунізм». Было падкрэслена, што калі сусветныя лідары не прымуць неадкладных мер для таго, каб справіцца са зменлівай натурай канфліктаў і недахопамі, выяўленымі ў дакладзе, перспектывы правоў чалавека ў бягучым годзе явяцца сумнымі: больш мірных жыхароў будуць вымушаны жыць у раёнах квазі-дзяржаў, кантраляваных агрэсіўнымі ўзброенымі групоўкамі, стануць ахвярамі нападаў, пераследу і дыскрымінацыі. Дойдзе да паглыблення пагроз для свабоды выказвання думак і іншых правоў, уключаючы парушэнні выкліканыя драконскім законам аб барацьбе з тэрарызмам і неабгрунтаваным масавым наглядам. Асаблівую заклапочанасць Міжнароднай амністыі выклікае растучая сіла недзяржаўных узброеных груп, у тым ліку групы, якая называе сябе Ісламскай дзяржавай. Некалькі разоў у дакладзе звяртаецца ўвагу на праблемы бежанцаў: «Трагічным наступствам параліччу міжнароднай супольнасці ў барацьбе са зменным відам канфліктаў з'яўляецца адзін з самых цяжкіх бежанскіх крызісаў, якога свет стаў сведкам. У той жа Сірыі ад гвалту і пераследу збеглі 4 мільёны чалавек».

Успамінаючы пра Беларусь, аўтары даклада прыйшлі да падобных высноў, як некалькі гадоў запар раней, ілюструючы гэта шэрагам новых канкрэтных прыкладаў: «Беларусь застаецца адзінай краінай у Еўропе, дзе выконваецца смяротнае пакаранне. Апазіцыя і праваабаронцы былі затрыманы з-за іх законнай дзейнасці. Было сур'ёзна абмежавана права на свабоду выказвання, а журналісты — уціскаюцца. Вялікім абмежаваннем падвяргалася таксама свабода сходаў. Няўрадавым арганізацыям надалей было адвольна адмоўлена ў рэгістрацыі». Між іншым згадвалася, што ў красавіку мінулага года беларускія ўлады пачалі прымяняць артыкул 22.9 Адміністратыўнага кодэксу («нелегальная вытворчасць і размеркаванне прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі»), каб праследаваць незалежных журналістаў і журналістак, якія пішуць для замежных СМІ. Улады прызналі, што яны павінны афіцыйна быць акрэдытаваны Міністэрствам замежных спраў як замежныя карэспандэнты.

Вядома, у дакладзе таксама згадваецца пра Польшчу. У кантэксце нашай краіны перaлічана ў першую чаргу пытанне аб існаванні сакрэтных турмаў ЦРУ і адзначана, што былы прэзідэнт Польшчы Аляксандр Квасneўскі прызнаўся, што існавалі на тэрыторыі нашай краіны такія турмы, і што Еўрапейскі суд па правах чалавека пастанавіў аб польскім саўдзеле ў праграме ЦРУ па незаконнай перадачы зняволеных і сакрэтных турмах. Акрамя таго, Міжнародная амністыя паўтарае свае папярэднія трывогі, якія тычацца абароны і забеспячэння сексуальных і рэпрадукцыйных правоў. Успомнілі таксама, што Польшча не ратыфікавала Канвенцыю Рады Еўропы аб папярэджанні і барацьбе з гвалтам у адносінах да жанчын і з гвалтам у сям'і, хаця месяц таму Сейм прыняў закон аб ратыфікацыі Канвенцыі. Было таксама падкрэслена, што ў сакавіку 2014 года Камітэт ААН па ліквідацыі расавай дыскрымінацыі адзначыў у Польшчы рост колькасці злачынстваў на глебе нянавісці, у тым ліку антысеміцкіх нападаў. Камітэт пакрытыкаваў адсутнасць палажэнняў Крымінальнага кодэкса, якія прызнаюць расавыя матывы ў якасці абцяжарвальнай акалічнасці здзяйснення злачынства. Дададзена: «Закон аб барацьбе з дыскрымінацыяй не забяспечвае роўнай абароны ад дыскрымінацыі па ўсіх падставах. Дыскрымінацыя па прыкмеце сексуальнай ідэнтычнасці не забаронена прама, за выключэннем забароны дыскрымінацыі па прыкмеце сексуальнай арыентацыі ў сферы занятасці».

Чытаючы даклад і адсочваючы падзеі мінаючай чвэрці гэтага года, здаецца, што ў маштабе правоў чалавека ў свеце, у тым ліку ў краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, па-ранейшаму не будзе з імі лепш. Каб я памыляўся!..

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Транспартны вулкан

Хаця можа падавацца, што наш міжгарадскі аўтобусны пасажырскі транспарт хіліцца да своеасаблівай гібернацыі, аднак яшчэ дыспетчары нашага аўтобуснага руху працуюць быццам вулкан. Што і раз вывяргаюць яны нейкія камунікацыйныя навінкі. Пару месяцаў таму завітаў у рэдакцыю наш нястомны Янка Целушэцкі, паведамляючы мне, што ўжо не ездзяць аўтобусы з Беластока ў Ляўкова. Сапраўды так было, але пасля згаданыя дыспетчары вывергілі, быццам вулкан нейкую глыбку лавы, адзін аўтобусны курс у напрамку Янкавай і маёй вёсак, які туды адпраўляўся з Беластока пад вечар; Янку то можа ён і выгадны, але мне менш. А вось на днях наша зямлячка Міра Лукша высакрэціла, што ёсць яшчэ адзін аўтобус у напрамку Нараўкі, з Беластока ў дзевяць гадзін раніцы. Заглянуў я ў інтэрнэт і сапраўды такі там паказаўся, па нерабочых днях. Зірнуў я яшчэ на трасу — не цераз Ляўкова яна, але праз Сушчу, што мне і так паказалася даволі задавальняючым вынікам.



І вось, у прыўзнятым настроі, у надта святочны дзень, бо ў нядзельку, якая сёлета супала з Днём жанчын, адправіўся я ў падарожжа. У шафёра купіў білет у Сушчу, падзяліўшыся з ім радасцю, што ён заедзе ў тую мясцовасць. Шафёр кіславата паведаміў, што ён едзе цераз Цivaнюкі, а з Юшкавага Груда далей проста ў Бандары. Крышку мяне гэта ўстрывожыла, аднак глянуў я на білет, а там выразна відней прыпынак Сушча. Усё ж такі ўстрывожыўся я не надта, бо ж, як гаварыў калісь бравы ваяка Швейк ці нехта з яго кампаньёнаў, яшчэ ніколі так не бывала, каб неяк не бывала; дык напэўна неяк будзе і цяпер.

Зараз за Беластокам, на прыпынку Сабалева/Грабоўка/Ронда паказаўся мужчына сярэдніх гадоў. Паказаўся ён, быццам не надта ведаючы, што яму трэба і не надта ведаючы, што шафёру сказаць. Аднак трэба было яму даехаць да наступнага прыпынку. Патыхала ад яго салідней манапалёўкай, аднак на нагах ён яшчэ трымаўся і злез з машыны там, куды заказваў білет.



Не помню, як даўно ехаў я ў напрамку Міхалова цераз Жэдню, але вось за апошняй мясцовасцю паказалася мне аптымістычная карціна: з надта зношанай раней дарогі здзерты ўвесь яе насціл, раскапаныя абочыны — словам: грунтоўны рамонт. Дарога прадстаўляла сабою доўгі-даўжэзны катлаван, якому не было канца — нават у Міхалове былі падняты старыя бардзюры і тратуары; ды і за Міхаловам дарога тая таксама аставалася яшчэ ў стадыі незавершанага грунтоўнага рамонту, пра які я быў пісаў тры ці чатыры месяцы таму.

За Міхаловам аўтобус не паехаў на Новую Волю, але перад развальваючайся цагельняй у Лясанцы павярнуў налева ў напрамку Кухмоў. Курс гэты паказаўся апраўданым, бо ў Азяблах злез адзін пасажыр, а ў Цivaнюках адна пасажырка. А за Юшкавым Грудом, пры адхадной дарозе ў напрамку Сушчы, шафёр прыпыніў аўтобус, паведамляючы мне, што гэта той прыпынак Сушча, куды я браў білет. Мне той прыпынак столькі ж варты, што і бязлюдная выспа — да самой Сушчы адтуль каля чатырох кіламетраў. Аднак на такі варыянт падарожжа я быў нават нарыхтаваны, бо яшчэ разглядаючы трасу гэтага аўтобуса падумваў я, ці не ехаць у Тарнопаль. І вось так хоцькі-няхоцькі давялося купіць білет у той Тарнопаль, куды мяне, як цяпер аказалася, правільна карціла.

У Бандарах з аўтобуса злезлі дзве асобы, а забраўся ў машыну даволі радасны і бестурботны мужчына сярэдніх гадоў, які папрасіў інвалідскі білет першай групы. У ходзе размовы з шафёрам пахваліўся ён, што едзе да сваёй любіменькай адзначаць жаночае свята. Шафёр кіславата заўважыў, што тая любанька можа яго пагнаць ад сябе нейкай мятлою ці анучай. Аднак магчымае і такое, што і тая панюся такога ж самага вываду, што і ейны паклоннік. Пры нагодзе мужчына паведаміў, што на прыпынак адвёў яго сын...



І сапраўды, на прыпынку ў Бандарах развітаўся быў з ім малады чалавек, гадоў не больш дваццаці, з выдатна абдзертым тварам. Аднак траўмы тыя не паходзілі ад жарснага змагання за нейкую прыгажуню з нейкім лютым канкурэнтам — былі яны вынікам змагання са звычайнай гравітацыяй, а ўдары былі нанесены мо нейкім тратуарам, мо бардзюрам, а мо звычайнымі бетоннымі ўсходкамі. У народзе прынята гаварыць, што калі нехта надта зап'еццца, то ён поўзае на чатырох. Але калі хто нап'еццца яшчэ больш, то такі і на чатырох не ў змозе выстаяць і трэба яму падпірацца яшчэ і носам — такая тады гравітацыя лютая. І вось той малады хлапец рвануў адзначаць жаночае свята не на ўсіх чатырох, як гэта прынята калісь гаварыць, а на ўсіх пяці, як трэба было б гэтую пагаворку прыстасаваць да нашай рэкордаоноснай эпохі.

Чаго ж мяне карціла ў бок Тарнопаля? А вось цікавіла мяне дарога між Новай Лукою і тым жа Тарнопалем: ці яна не такога ж самага ўзору, як і праслаўленая Янкам Целушэцкім тая ж сама ваяводская дарога № 686 з Юшкавага Груда ў Навасады, што між Новым Ляўковам і Плянтай. І вось выглядае яна намнога больш узорыстай за тую, якую так рупліва расхвальвае наш нястомны солтыс, радны, пісьменнік etc., etc., etc... Тут выдатныя карункавыя ўзоры на асфальце, якіх бадай і найбольш таленавітыя рукадзельніцы не прыдумалі б. Да таго ж яшчэ на той жа дарозе ў вобрубе Скупава вельмі цікавы барэльеф. Гэтыя вось адрэзкі аж рвуць свае палотнішчы ў нямым клічы, каб нейкае высокае начальства зацікавілася імі, так як Янка Целушэцкі песціць ваяводскую асфальтовачку ў вобрубе ягонай вёскі — быццам уяўны Рамеа сваю Джульету ў Дзень жанчын.

На прыпынку побач расхадных дарог у Людвінова і Смольню высаджваюся з аўтобуса і кіруюся ў бок Міхнаўкі. На пясочным грунце, які калісь-калісь абраблялі навакольныя сяляне, зараз малады сасновы лес — грыбніца шырокага наваколля. Зараз ляжыць там шмат маладых сасновых вярхоў, якія не ўтрымалі цяжару падоранага ім зімою снегу. Але не ўсе вярхі зламаныя — зламаныя толькі вярхі найпрыгажэйшыя, з найбуйнейшай сасновай шавялюрай; прырода „раскулачыла" з найкаштоўнейшай маёмасці найбагацейшыя сасонкі, так як калісь таварыш Сталін наводзіў „справядлівасць" адносна найбагацейшых сялян...

Неўзабаве паказваецца бярэзінка, а гэта абазначае што там грунт больш спрыяльны за сам пясочак. А за бярэзінкай Церамкі і Міхнаўка. У 1953 годзе я, другакласнік, у ліку ляўкоўскіх вучняў, рваў лён на полі толькі што сарганізаванага міхноўскага калгаса. Тадышняя наша прапаганда кляйміла ўсялякіх буржуяў-крывасмокаў, што яны заганяюць дзяцей да працы за галодны грош. Так мела быць далёка ад нас, бо ў нас усе працавалі тады не ў карысць эксплуататараў, толькі ў карысць народа, кіраванага перадавой рабоча-сялянскай партыяй. Праўда, ніхто тады не стаяў з папругай над нашымі спінамі, але ж нашы апекуны вызвалялі прысутную дзецям ахвоту да спаборніцтва...

За расхаднымі дарогамі ў Міхнаўку, Лешукі ды ў адно і другое Ляўкова аўтобусны прыпынак; цяпер ён называецца Міхнаўка. А ў геркаўскі час называўся ён Капітаншчына, у якую адтуль чатыры кіламетры — рыхтык як з-пад Юшкавага Груда ў Сушчу. Недзе ў варшаўцы тамашні гаварыльніцкі ці пісальніцкі народ выводзіць кантрастную лінію паміж эпохай „зняволення" і эпохай „свабоды". Кантрастнасць гэтай лініі рэлятыўная і залежыць ад пункту гледжання — часам яна і зусім невідочная. То ж у не так даўні час, гэтак жа як і цяпер, аўтобусныя прыпынкі можна было называць як каму з начальства ўздумалася: хацелі назваць прыпынак у вобрубе Лешукоў Капітаншчынай — называлі, хочуць назваць прыпынак у вобрубе Юшкавага Груда Сушчай — называюць. А што пасажыр часам можа мець ад гэтага нейкі клопат — гэта ж клопат пасажыра: чаго ён валочыцца! Сядзеў бы дома і не было б клопату...

Вельмі шкада, што гэтым нашым, бадай беластоцкім, патэнтам, не карыстаюцца тапаністы ў шырокім свеце, напрыклад у Маскве. Маглі б жа яны назваць Севастопалем, Сімферопалем, Сталінам ці Варашылаўградам нейкія аўтобусныя ці чыгуначныя прыпынкі ў Падмаскоўі. Ды не толькі: маглі б назваць Бруселем, Цюрыхам, Гайнаўкай, Ганалулу ці нават Сушчай і Капітаншчынай. Мелі б у сябе цэлы свет! А калі б які тамашні валацуга трапіў заміж у Рыо-дэ-Жанейра ў нейкі падмаскоўскі калгас, дык яму грошыкі асталіся б у кішэні — сама карысць...

На прыпынку, што цяпер называецца Міхнаўка, а калісь называўся Капітаншчына, зараз стаіць новенькая паветка для чакаючых пасажыраў — раней такое там ніколі не было; была толькі лавачка з трох частак: дзвюх калодак і прыбітай да іх дошкі. І вось радуе тое, што гэты помнік даўніны астаўся. Калодкам за час сваёй нястомнай службы ў карысць пасажырскага транспарту адгніла ўкапаная ў зямлю падстава, але тое, што было верх зямлі — асталося. І вось той рэлікт стаіць цяпер у новым антуражы, быццам яднаючы мінулае з цяперашнім, быццам такая повязь XX і XXI стагоддзяў.

Вяртаюся ў Беласток тым жа самым аўтобусам, што і выехаў з Беластока. У Сушчы каля прыпынку, што пасярэдзіне вёскі, стаяць дзве бабулькі. Шафёр звальняе, але бабулькі паездкай не зацікаўленыя. Заўважаю, што яны выйшлі, мабыць, адно толькі паглядзець на аўтобус, на што шафёр цалкам сэнсоўна адказвае, што цяпер аўтобус становіцца ў вёсцы рарытэтам.

Рарытэтам становіцца аўтобус у Сушчы. У геркаўскі час з Сушчы было пяць аўтобусных курсаў у Гайнаўку і тры ў Беласток — разам восем штодзень. Цяпер жа асталося толькі па адным курсе туды і сюды. Затое ж калісь у Сушчы быў толькі адзін прыпынак, а цяпер аж тры: у цэнтры вёскі, на канцы і каля Юшкавага Груда. Курсаў стала менш, затое прыпынкаў стала больш...

Абедзенны час, пасажыры цвярозыя. Тыя, што выйшлі адзначаць Дзень жанчын на першай змене, ужо заліліся і адпачываюць перад чарговымі подзвігамі; тыя, што выйдуць на другую змену — зап'юцца пазней. У аўтобусе спакойна. Нехта з пасажыраў пытае шафёра, ці аўтобус затрымаецца ў Беластоку за скрыжаваннем з Пястоўскай вуліцай. Не, не затрымаецца, бо з пачаткам бягучага года затрымлівацца там нельга; а раней дазвалялася. І так бурліць наш публічны транспарт: чалавек сядае ў аўтобус і не мае ўпэўненасці, куды заедзе: ці на Пястоўскую вуліцу, ці ў месца, названае Сушчай.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Як працуе крама ў Новым Ляўкове

Жыхары Новга Ляўкова Нараўчанскай гміны (Гайнаўскі павет) наракаюць на працу прадуктовай крамы ў вёсцы. Належыць яна Гміннай спулдзельні (ГС) у Нараўцы. Вось маем ужо каторы дзень сакавіка гэтага года (пішу гэты допіс 14 сакавіка) і невядома чаму крама закрыта. Няма ніякай інфармацыі аб тым, калі краму адкрываюць. Ажно дзіўна, што старшыня ГС гэтым не пацікавіцца. Тэлефоны ў гэтай справе да ўласніка крамы былі. ГС прадала сваю краму ў вёсцы Скупава і намерана яшчэ прадаць іх у Гушчэвіне і ў Семяноўцы. Вось як! Абы праўленню спакойна пражыць яшчэ адзін год, два а можа (дай Божа) тры. Пра пакупнікоў не думае.

У краме ў Новым Ляўкове прадаўшчыцы часта мяняюцца. Зараз прывучаецца да гэтай прафесіі новая. Многія ж з мужчын пераканаліся ў тым, што жанчыны істоты зменлівыя. А ў нашай вёсцы ёсць так: ёсць крама, ёсць тавар ды няма прадаўшчыцы. А зараз гавораць, што працы няма. А чаму, калі хто прыступіць да працы дык не шануе яе, капрызнічае, пакідае месца працы, калі толькі захоча, пачынае шукаць сабе іншай і ўсім гаворыць, што ў нашай краіне няма працы. А як ужо не хочуць працаваць тыя, што на г. зв. засілку.

Маладыя жанчыны — часам нават без сярэдняй адукацыі — шукаюць сабе працу ў бюро. А чаму ж бы не? Такой працы ўсім жа не хопіць. Многія дзяўчаты і жанчыны рвуцца тады працаваць за межамі нашай краіны. Вось будуць мецъ грашыскаў! Пакідаюць сваіх сяброў, мужаў, сем'і. Калі вернуцца, то не на доўга. Там, за сотні кіламетраў ад дому, у іх ужо новыя знаёмствы, маюць новых калег. Здараецца і такое, што іх сем'і распадаюцца... А ім каб грошы, грошы. Калі пабагацеюць, кепікі строяць з мужоў і — бывае — іх пакідаюць.

З Новага Ляўкова ездзяць працаваць у Нямеччыну, Чэхію, Славакію, Бельгію і ў Швецыю. Раней часта ездзілі яшчэ ў Галандыю (праца пры цюльпанах). Адна маладая колішняя жыхарка Новага Ляўкова (помню яе з таго часу, калі была вучаніцай у школе ў Старым Ляўкове) жыве ў далёкай Канадзе. Яна тужыць за бацькамі, за роднай старонкай. Калі прыедзе летам у Новае Ляўкова, тады купляе ўсе нумары „Нівы", якія толькі мае солтыс і вязе іх з сабою, каб пачытаць на новым месцы свайго жыхарства. І тады — як кажа — мне лягчэй на душы і сум-туга хутчэй праходзіць.

Мне, жыхару Новага Ляўкова, важна, каб маім аднасяльчанам (яны пераважна ў пажылым узросце) жылося лепш і выгадней. Зараз — па серадах і суботах — свежы хлеб і да хлеба прывозіць аўтакрама з Гайнаўкі. Солтыс паклапаціўся.

**(яц)**






# Аляксандр Сяліцкі — ад начальніка да бургамістра

Падчас самаўрадавых выбараў у лістападзе мінулага года, пасля чатырохгадовага перапынку, бургамістрам Кляшчэляў быў зноў абраны Аляксандр Сяліцкі, а войтам Чаромхаўскай гміны — таксама зноў — Міхал Врублеўскі. Абодва самаўрадаўцы распачалі кіраваць працай згаданых гмін яшчэ ў васьмідзясятых гадах у якасці начальнікаў гмінных устаноў.

— Жыхары Кляшчэляў і навакольных вёсак у большасці прагаласавалі за Аляксандра Сяліцкага. Ён — перш за ўсё вопытны самаўрадавец і ведае як прыцягваць інвестыцыйныя сродкі, — сказала мне жыхарка Кляшчэлеўскай гміны.

Аляксандр Сяліцкі, які балаціраваўся на пасаду бургамістра ад выбарчага камітэта „Пажарнік", атрымаў 873 галасы, што склала 61,26% ад усіх важных галасоў. Яго контркандыдат на лістападаўскіх выбарах Ірэна Негярэвіч, якая была бургамістрам Кляшчэляў у 2010-2014 гадах, атрымала 552 галасы (38,74%). Якраз у чэрвені гэтага года міне 30 гадоў з часу, калі Аляксандр Сяліцкі быў прызначаны на пасаду начальніка Кляшчэлеўскай гміны. Пасля стаў ён войтам і з 1993 года, калі Кляшчэлям былі вернуты гарадскія правы, з'яўляецца бургамістрам Кляшчэляў з перапынкам у 2010-2014 гг.

## — Вас прызначылі на пасаду начальніка Кляшчэлеўскай гміны ў маладым узросце? — пытаю бургамістра Аляксандра Сяліцкага.

Аляксандр Сяліцкі: — Калі я стаў начальнікам Кляшчэлеўскай гміны, мне было толькі 28 гадоў. Ваяводскія ўлады разважалі, ці я не надта малады на гэтую пасаду. Калі пазней начальнікам Нараўчанскай гміны стаў Мікола Павільч, ён быў толькі крыху старэйшы за мяне. Міхал Врублеўскі быў ужо старэйшы за нас, калі таксама ў васьмідзясятых гадах стаў начальнікам Чаромхаўскай гміны. Мяне падтрымліваў мясцовы грамадскі актыў. Я раней не дзейнічаў у Польскай аб'яднанай рабочай партыі, а запісаўся да яе толькі ў 1985 годзе, перад выбарам на начальніка гміны. Наміналацыю я атрымаў з рук тадышняга беластоцкага ваяводы Казімежа Дуная, а прывёз мяне ў Кляшчэлі з Беластока і прадставіў мясцовым працаўнікам дырэктар аддзела кадраў спадар Ляўковіч. Пасля выслалі мяне на абучэнне маладых начальнікаў і з ліку 25 асоб, што прыехалі з розных мясцовасцей Польшчы, я быў наймалодшы. Мяне ведалі мясцовыя людзі, бо я — ураджэнец Кляшчэляў, тут закончыў падставовую школу, пазней вучыўся ў ліцэі ў Бельску-Падляшскім, а пасля закончыў вучобу ў Сельскагаспадарчай акадэміі ў Любліне. Рашыўся вярнуцца ў Кляшчэлі, дзе стаў старшынёй мясцовага Кааператыва сельскагаспадарчых кружкоў. Пазней выбралі мяне старшынёю Грамадскага камітэта пабудовы асяродка культуры і між іншым за намаганні пры пабудове асяродка быў прапанаваны на пасаду начальніка гміны. У 1990 годзе я быў радным выбраны на пасаду войта Кляшчэлеўскай гміны, а тры гады пазней, калі Кляшчэлям былі вернуты гарадскія правы, стаў я бургамістрам.

## — Пачынаючы з 1985 года, рэалізавалі Вы розныя інвестыцыі ў гміне.

А. С.: — Самай вялікай інвестыцыяй была пабудова Пачатковай школы, якая дзейнічае зараз як Комплекс школ. Тады інвестыцыя каштавала чатыры з паловай мільёна злотых. Будова спартыўнай залы пры школе каштавала два з паловай мільёна злотых.

## — Ці гэта былі сродкі з Міністэрства адукацыі, якія выдзяляліся тады на будову школ для нацыянальных меншасцей?

А. С.: — Так, гэтыя сродкі былі перш за ўсё з Міністэрства адукацыі, якія прызначаліся па такіх прынцыпах, але атрымаць іх было складана, чаго мы дабіліся пасля вялікіх намаганняў. Іншыя вялікія інвестыцыі, якія рэалізавалі мы на тэрыторыі нашай гміны, успамагаліся вялікім дафінансаваннем звонку, бо ўласнымі сродкамі мы не маглі б іх рэалізаваць. Трэба было неабходныя сродкі здабываць. З дапамогай вонкавых сродкаў мы збудавалі Рэпчыцкі заліў, размерам у 11 гектараў. Выкарыстоўваючы вонкавыя сродкі, збудавалі мы ачышчальню сцёкаў і ў 90% сістэму санітарнай каналізацыі ў Кляшчэлях, Дабрывадзе і Рэпчычах, якія ўвайшлі ў састаў агламерацыі. Калі будавалася краёвая дарога праз Кляшчэлі, нам удалося, дафінансаваўшы інвестыцыю, давесці да будовы двух скрыжаванняў з кругавой развязкай, побач Кляшчэляў і ў горадзе, былі пракладзены тратуары, арганізаваны станкі па гэтай дарозе, што моцна ўпрыгожыла цэнтр Кляшчэляў. Калі я быў ваяводскім радным (1998-2002), удалося мне давесці да мадэрнізацыі адрэзка ваяводскай дарогі з Кляшчэляў у Елянку, што дало пачатак комплекснай мадэрнізацыі гэтай ваяводскай дарогі, якая на адрэзку з Елянкі ў Гайнаўку закончылася ў мінулым годзе. Я вельмі рады перабудове і рамонту асяродка культуры «Гладышка», які стаў візітнай карткай Кляшчэляў. Мы займаліся таксама комплекснай пракладкай водаправодаў у гміне, мадэрнізавалі і асфальтавалі дарогі ў Кляшчэлях, даязныя дарогі ў вёскі і клалі асфальтавае палатно ў нашых сёлах. Зараз амаль 100% жыхароў нашай гміны падключаны да водаправоднай сеткі, а асфальтаваная дарога не даходзіць толькі ў вёску Белая Страж, што каля Палічнай. Калі бургамістрам была ў нас Ірэна Негярэвіч, былі рэалізаваныя запланаваныя і распачатыя мною будова санітарнай каналізацыі, мадэрнізацыя вуліц у Кляшчэлях, рамонт святліц у Дашах і Тапарках. Аўтарскім праектам бургамістра Ірэны Негярэвіч былі будова спартыўнай пляцоўкі «Орлік» у Кляшчэлях і рамонт святліцы ў Залешанах.

## — Ці ў Вас паявіліся ўжо канкрэтныя інвестыцыйныя планы на бліжэйшы перыяд?

А. С.: — Мы растэрмінавалі інвестыцыі ў гміне на тры этапы. Спачатку хочам мадэрнізаваць і асфальтаваць вуліцы Боцькаўскую, Касцельную і Пушкіна ў Кляшчэлях. У другім этапе прадбачваем мадэрнізаваць і асфальтаваць вуліцы Кляшчэлеўскую і Чыгуначную ў Дабрывадзе і дарогу ў Залешаны-Ровы. У трэцім этапе плануем мадэрнізаваць і асфальтаваць дарогі Сакі — Грабавец, Паграбы — Косная і дарогу ў Белую Страж.

## — Як стараецеся прыцягнуць інвестараў у гміну, якія стварылі б новыя месцы працы?

А. С.: — Мы садзейнічаем развіццю турызму і агратурызму ў гміне, паколькі частку гміны займае Белавежская пушча і яе непасрэднае наваколле. Садзейнічаем таксама інвестыцыям. Мы яшчэ раней выдзелілі 20 гектараў зямлі, адразу за Кляшчэлямі, побач краёвай дарогі ў напрамку пагранперахода ў Полаўцах. Хутка мае быць ён адкрыты для міжнароднага руху, пасля грунтоўнай разбудовы. Мы хочам выкарыстаць нашае распалажэнне дзеля заснавання на выдзеленай намі тэрыторыі гандлёвых і паслуговых суполак. Праз нашую мяжу можа пайсці вялікі паток машын у Беларусь і далей у Расію і іншыя краіны. З'явіцца шанц выкарыстаць гэта для стварэння ў нас новых месцаў работы.

## — У Арлянскай гміне стаяць двухмоўныя ўказальнікі з назвамі населеных пунктаў на польскай і беларускай мовах. Ці Вы не прадбачваеце ставіць двухмоўныя дошкі ў Кляшчэлеўскай гміне?

А. С.: — Калі паявілася такая магчымасць, мы праводзілі кансультацыі падчас вясковых сходаў і гэтая ідэя не была падтрымана нашымі жыхарамі. Зараз пра гэта больш гаворыцца і можа людзі інакш сталі думаць. Восенню плануем спытаць жыхароў нашай гміны падчас вясковых сходаў, што цяпер думаюць у справе дошак з назвамі мясцовасцей на польскай і беларускай мовах.

## — У Комплексе школ у Кляшчэлях адбываецца навучанне беларускай мове і гэта спрычыняецца да атрымлівання дадатковых датацый.

А. С.: — Датацыя да навучання беларускай мове вялікая ў пераліку на кожнага навучэнца беларускай мовы і для нашай школы вельмі карысная. У нас пастаянна беларускай мове вучыцца група вучняў. Мы прадбачваем заахвочваць вучыцца іншых вучняў. У нас працуюць кваліфікаваныя настаўнікі беларускай мовы. Я, напрыклад, не памятаю ўсіх сваіх настаўнікаў з пачатковай школы, а маю настаўніцу беларускай мовы Сафію Максімчук добра памятаю і добра ўспамінаю. Таксама добра ўспамінаю мае ўрокі беларускай мовы ў Пачатковай школе ў Кляшчэлях. Цікавыя ўрокі прыцягваюць вучняў на занятк беларускай мовы.

## — Якія беларускія мерапрыемствы арганізаваліся ў гміне і якія плануеце ладзіць у будучыні?

— У нашай гміне арганізаваліся беларускія фэсты ў супрацоўніцтве з БГКТ ды Музеем і асяродкам беларускай культуры ў Гайнаўцы з цыкла «І там жывуць людзі». Падчас гмінных мерапрыемстваў выступаюць беларускія калектывы. Хочам прадаўжаць гэтыя традыцыі. Я ў 2006 годзе запачаткаваў супрацоўніцтва з горадам Высокае ў Беларусі і мы працягвалі супрацоўніцтва ажно да 2010 года. Бургамістр Ірэна Негярэвіч спыніла гэтае супрацоўніцтва і тады ўлады горада Высокае наладзілі кантакт з Чаромхаўскай гмінай. Між іншым, у Чаромхаўскай гміне, з выкарыстаннем еўрасаюзных сродкаў, была збудавана санітарная каналізацыя ў супрацоўніцтве з горадам Высокае. Я прадбачваю ў супрацоўніцтве з Высокім інвестыцыі ў нашай гміне з выкрыстаннем еўрасаюзных сродкаў і зараз адначу кантакты з беларускім горадам. Мэр Высокага Мікола Сачык быў ужо ў нас два разы. Прадбачваем супрацоўніцтва і рэалізацыю супольных дарожных, водных і іншых інвестыцый з фінансавай падтрымкай еўрасаюзнага бюджэту. Прадугледжваем таксама супрацоўніцтва ў галіне культуры, напрыклад, супольны ўдзел у беларускіх мерапрыемствах, што мы рабілі падчас папярэдняга перыяду супрацоўніцтва.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Цудоўныя кнігі ад Казанэцкага



**ПЁТР НЕСТАРОВІЧ** не чакаў і намінацыі, а тым больш літаратурнай узнагароды прэзідэнта горада Беластока. Народжаны ў Аполі аўтар раней займаўся вялікім бізнесам. Шукаючы сямейных каранёў, вярнуўся ў Орлю, дзе нарадзіўся яго бацька. Натхнёны нашым Усходам, выдаў раней зборнік дакументальных рэпартажаў «Апошнія абаронцы веры». Пётр Нестаровіч нарадзіўся ў 1971 годзе, скончыў арганізацыю і кіраванне ў Эканамічнай акадэміі імя Оскара Ланге ў Вроцлаве; абараніў доктарскую дысертацыю. Да нядаўняга часу ён быў членам рада буйных кампаній у тэлекамунікацыйнай галіне, а ў цяперашні час ён спецыяліст па тутэйшым Усходзе і цудах. Піша, між іншым, у жанры фэнтэзі. Мае на сваім рахунку навукова-фантастычны раман «Пясок». Кажа на завяршэнні конкурсу 6 сакавіка ў Цэнтры імя Заменгофа ў Беластоку: «Родную Орлю і Беласточчыну я адкрыў у дарослым жыцці».

Літаратурная прэмія імя Веслава Казанэцкага — за лепшую кнігу года — прысуджаецца пісьменнікам, якія звязаны з літаратурнымі коламі Беластока і рэгіёна або нарадзіліся тут, або жывуць, або іх творчасць мае дачыненне да горада і рэгіёна, і аўтарам, чые кнігі былі апублікаваны ў Беластоку. Пераможная «Цудоўная» распавядае аб так званым заблудаўскім цудзе.

— У Заблудаве ёсць яшчэ група людзей, якая па-ранейшаму займае адмоўную пазіцыю ў адносінах да сям'і і самой Ядвігі Якубоўскай, якая зазнала відзежы на лузе пад Заблудавам. Яны надалей рады паўтарыць чуткі. Мяне ўразіла, што зайздрасць выжыла паўстагоддзя, гэтым я быў здзіўлены і ў той жа час гэта мяне найбольш расчароўвае, — сказаў Пётр Нестаровіч, аўтар кнігі-рэпартажа «Цудоўная». — Гэтую кнігу я ўяўляў сабе інакш, а ў канчатковым выніку выйшла яшчэ інакш. Спачатку я думаў, што гэта будзе аб тым, як камуністычная ўлада змагаецца з рэлігіяй і грамадзянамі. Але, як я пачаў прыязджаць сюды часцей, вывучаць дадатковыя пласты, праводзіць шмат гутарак, я зразумеў, што гэта будзе нешта зусім іншае: гісторыя эмоцый, якія відзеж выклікала ў жыхарах мястэчка. У Заблудаве выклікала зусім процілеглы эфект — рэўнасць і зайздрасць. Пішучы пра ўсё гэта цяпер, праз паўстагоддзя, я адчуваю сябе вельмі адказным за тое, што так моцна ўступіў у жыццё спадарыні Ядвігі. Што разгроб тое, што ўжо даўно прысохла. А акрамя таго, і я вельмі эмацыйна звязаны з гісторыяй. Я не чакаў узнагароды імя Казанэцкага за маю кнігу, канкурэнцыя была вельмі добрая. Я рады, што кніга была ацэненая тут, на Падляшшы. Таксама дзякую тром жанчынам — пані Ядвізе, якая распавяла гісторыю пра заблудаўскі цуд, Юліяне Ёнэк, рэдактарцы выдавецтва „Dowody na Istnienie", якая вырашыла выдаць кнігу, і маёй жонцы Барбары, якая з'яўляецца першай чытачкай маіх твораў. Я вельмі шчаслівы, вельмі задаволены. Я таксама рады, што гэтая кніга была ацэненая тут, у 20 км ад Заблудава, ад таго месца, дзе адбываюцца ўсе падзеі. Я не пішу кніг толькі дзеля грошай, гэта не мая асноўная матывацыя. Гэта літаратура з'яўляецца найбольш важнай, а толькі пасля нейкае там фінансавае задавальненне.

«Цудоўная» таксама з'яўляецца адным з намінантаў на сёлетні тытул прэміі Рышарда Капусцінскага.

Да прэміі Казанэцкага намінантамі былі яшчэ дзве кнігі. Першая — «Сонька» Ігната Карповіча (родам са Случанкі Гарадоцкай гміны) аб рамане непісьменнай сялянкі са Случанкі з эсэсаўцам. Другім быў зборнік вершаў «Рэчы паспалітыя» Тэрэсы Радзевіч з Юхнаўца. Марэк Каханоўскі, старшыня Капітула, пералічваючы вылучаных, заявіў, што Тэрэса Радзевіч падтрымлівае рытуал полікультурнага Падляшша, а «Сонька» з'яўляецца аповедам пра немагчымую гісторыю. Карповіч паказвае, што важнымі з'яўляюцца персаніфікаваныя гісторыі. А «Цудоўная» з'яўляецца ўніверсальнай кнігай — пра гісторыю, пра якую шмат разоў мы чулі, ды недаказаную. Тым не менш, у гісторыі цуду ляжыць шмат праўды аб нашым рэгіёне. Нестаровіч складвае малюнкі, ствараючы мнагамерны партрэт падляшскай правінцыі сярэдзіны XX стагоддзя. Капітул прэміі назваў яго «Калумбам беластоцкай літаратуры, шукаючым невядомай зямлі». Адзначыў, што творчасць патрона прэміі атрымлівае ўсё большае прызнанне ў Польшчы, служыць таксама прамоцыі аўтараў. Дадаў, што былі намінаваны тры жанры — паэзія, проза і рэпартаж — якія практыкаваў Веслаў Казанэцкі, але першы раз узнагароджаны рэпартаж (у мінулым годзе да літаратурнай прэміі імя Казанэцкага быў заяўлены зборнік Ганны Кандрацюк „Białoruś. Miłość i marazm", але чамусьці гэты жанр тады быў недаацэнены).

Да ўзнагароды былі заяўлены 27 кніг, выдадзеных у 2014 годзе: «Spojrzenia z oddali» — Анджэя Янушэўскага, «Wyrazy uznania» Пятра Яніцкага, «Podaruję ci ciszę i tęczę» — Гражыны Цыльвік, «Rondo» — Ірэны Жукоўскай-Румін, «rzeczy pospolite» — Тэрэсы Радзевіч, Альжбета Янікоўская — за творчасць, «Kosmos w Ritzu» — Мількі Мальзан, «Mężczyzna prosty w obsłudze, czyli kobieta szczęśliwa w związku» — Малгажаты Кадыш, Мечыслаў Чайкоўскі за творчасць, «Wilczek Milczek» — Багдана Дудко, «Cztery zachodnie staruchy. Reportaż o duchach i szamanach» — Бартоша Ястшэмбскага і Енджэя Маравецкага, «Wrota Światów» — Дарыюша Адамоўскага; «Sońka» — Ігната Карповіча, «Cudowna» — Пятра Нестаровіча, «Post tenebras Lux» — Катажыны Цітко, «Dźwiękoczułość» — Дароты Сакалоўскай; «Madzia i Jacek» — Альжбеты Янікоўскай, «Dzielnica» — Анджэя Аніхімовіча, «Wierszyki znad Białki» — Дам'яна Кудзіноўскага, Марыі Красніцкай і графічкі Магды Тачыдлоўскай, «Splątanie» — Агнешкі Маславецкай, «Doktor Esperanto — komiks o Ludwiku Zamenhofie» — Даніеля Баўма і Войцеха Лавіцкага, «Spacer z Kawelinem» — Магдалены Верамеюк і Кацярыны Касцевіч, «Sama. Listy z piwnicy» — Гжэгажа Касдэпке, Альжбета Казлоўская-Свянткоўская — за творчасць, «Miłosz. Tkanka Łączna» — Кшыштафа Чыжэўскага, «Czworokot» — Бажэны Сяменчук-Барташэвіч і «Dolina. Znad Narwi i Świsłoczy» — Багдана Дудко, выдадзеная «Нівай» і Радыё Рацыя. Як адзначыў старшыня Капітула, аб якасці пераможных намінаваных кніжак сведчыць тое, што не намінаваны былі «геніяльныя кнігі Дароты Сакалоўскай і Кшыштафа Чыжэўскага». А чаму ж не былі намінаваны пяць кніг? — пытанне да Капітула. Наступнае: у рэгламенце раней успаміналася, што лаўрэатам гэтай узнагароды можа быць аўтар толькі два разы, а трэці раз можна быць заяўленым да ўзнагароды за ўсю творчасць. А, здаецца, Ігнат Карповіч шукаваўся ўжо да пятай прэміі. Мяне, як чытача і літаратара, турбаваў іншы чытач і літаратар, настойліва дапытваючыся, якія ёсць перавагі ў «Цудоўнай», што яна перамагла «Соньку», а адзін прафесар з універсітэта вельмі пераконваў, што не стала лаўрэаткай «найлепшая паэтычная кніга», якую ён у жыцці чытаў — зборнік вершаў Тэрэсы Радзевіч, тым больш што паэзія апошні раз была ўзнагароджана бадай пяць гадоў таму. Мабыць, Капітул моцна на сабе ламаў агульнапольскія галовы, каб належна ацаніць тутэйшую творчасць. А адносна «прасоўвання» аўтараў і іх твораў у Польшчу і далей могуць з узыхам расказаць штосьці, скажам, між іншым, Міхась Андрасюк з Войнаўкі ці Ян Камінскі з Ярылаўкі, якія, і мы разам з імі, маглі спадзявацца большай прамоцыі сваіх пераможных кніг хаця б у краіне.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

## Добрыя сустрэчы сяброў

25 студзеня 2015 года дзесяць членаў грамадскага аб'яднання „Прыяцелі Кляшчэлеўскай зямлі" былі ў гасцях у Камянецкім раённым грамадскім культурна-адукацыйным аб'яднанні „Спадчына".

Сустракаліся сябры ў гарадскім доме культуры на канцэрце „Добрыя сустрэчы сяброў". Гэта ўжо чацвёртыя сустрэчы. Арганізатар „Добрых сустрэч" — дырэктар Дома культуры Алег Грыпічук.

Дзень закаханых і Грамніцы члены КРГКАА „Спадчына" сустракалі ў вёсцы Дабрывада Кляшчэлеўскай гміны. Нам пашчасціла пабываць на XXII Фестывалі „Беларуская песня", які праходзіў у Доме культуры ў Гайнаўцы. Асалодай для сэрца былі спевы вучняў беларускага ліцэя з Бельска-Падляшскага, членаў калектыву „Спадчына" — аднайменнага з нашым аб'яднаннем.



Вялікае дзякуй бургамістру Кляшчэль Аляксандру Сяліцкаму, старшыні грамадскага аб'яднання „Прыяцелі Кляшчэлеўскай зямлі" Андрэю Рошчанку і сакратару аб'яднання Марыі Клімовіч за запрашэнне на сустрэчу.

А 20 лютага дзеці фальклорнага калектыву з Навасёлкаўскай школы з Беларусі былі ў гасцях у Кляшчэлях. Іх запрасілі на Дзень сяброў вучні мясцовага комплексу школ.

Паміж беларускімі і польскімі вучнямі адбыліся спартыўныя спаборніцтвы. Перамагла дружба. Беларускія дзеці атрымалі дыплом і кубак. Абедалі за адным сталом разам з польскімі вучнямі. Па абедзе адбыўся канцэрт. Дырэктар школы Славамір Трашчотка расказаў пра дасягненні школьнага комплексу і планы на будучыню. Госці атрымалі салодкія падарункі. Чакаем дзяцей з Кляшчэль да сябе ў госці.

**Людміла ДУДАР**
старшыня КРГКАА „Спадчына"

## Алімпіяда рэлігійных ведаў

Лукаш Ляўчук з Гайнаўскага ліцэя з дадатковым навучаннем беларускай мовы стаў пераможцам агульнапольскай Алімпіяды праваслаўных рэлігійных ведаў. У фінале конкурсу на пытанні, звязаныя з тэалогіяй і гісторыяй хрысціянства, адказвалі 12 чалавек з Беластока, Бельска-Падляшскага, Гайнаўкі і Сямятыч. Канкурсанты характарызавалі элементы праваслаўнай параўнальнай тэалогіі. „Фіналісты мусілі ведаць, якія адрозненні ў тэалогіі хрысціянскіх веравызнанняў, — кажа пераможца Лукаш Ляўчук. — Трэба было параўнаць тры хрысціянскія канфесіі, іхныя дактрыны. Гісторыю падзелаў хрысціянства на спавяданні". Другім лаўрэатам алімпіяды стала Дарота Марыя Леанкевіч з Беластока. Трэцяе месца ў конкурсе заняла Аляксандра Якімюк з Гайнаўскага белліцэя. Дзякуючы перамозе лаўрэаты маюць адкрытыя дзверы ў некаторыя польскія ВНУ, між іншым Універсітэт у Беластоку, Хрысціянскую тэалагічную акадэмію ў Варшаве ды Каталіцкі люблінскі ўніверсітэт.

**Лукаш ЛЕАНЮК,**
**Беларускае Радыё Рацыя,**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Зорка

для дзяцей і моладзі

# Хачу, каб наша моладзь была разумнай і інтэлігентнай!

**Інтэрв'ю з паэтам Віктарам Шведам, які 23 сакавіка адзначыць 90-гадовы юбілей. З нашай газетай паэт сябруе ад пачатку, значыць ад 1956 года.**

«Зорка»: — *Якія кніжкі зараз чытае Віктар Швед?*

Віктар Швед: — Апошнім часам я стараюся чытаць беларускія кніжкі. Я чытаю ўсё, што ў нас можна здабыць з беларускай літаратуры, і ўжо больш рэдка бяру ў рукі польскія кніжкі.

З: — *Ці гэта датычыць таксама дзіцячых аўтараў?*

ВШ: — Тут больш разнавідна. Я шаную такіх дзіцячых класікаў як Юльян Тувім, Ян Бжэхва, часам загляну да Марыі Канапніцкай. Нават даследчыкі прыкмячаюць падабенствы між мной і Канапніцкай, хоць гэта не значыць, што пішу пад яе ўплывам.

З: — *Чаму варта чытаць кніжкі?*

ВШ: — Я заўсёды быў кнігалюбам. Жывучы ў Варшаве, я купляў усё, што выходзіла, і сабраў даволі вялікую бібліятэку. На жаль, зараз я мушу абмежавацца, бо ўжо няма дзе захоўваць кніжак. Чаму варта чытаць? Для мяне гэта адкрыццё на новыя творчыя ідэі, гэта натхненне да жыцця і пісання.

З: — *У Вас надта здаровы прынцып, каб пісаць для дзяцей вясёлыя творы. З другога боку, Вашыя вершы часта бываюць прыдзёрлівыя, сашпіленыя інтэлігентным гумарам?*

ВШ: — Мне заўсёды здавалася, што нельга дзеткам пісаць сумных рэчаў, бо яны і так яшчэ ў жыцці насумуюцца. Праўда, сёння ў нас многа прыкрых, сумных спраў, жывем у жудасным перыядзе часу. У нас па-суседску вайна, і хто ведае, ці гэта таксама нам не пагражае. А калі пра іронію і гумар — я стараюся, каб наша маладое пакаленне было як найбольш разумнае і культурнае?

З: — *Аднак цягам апошніх гадоў нашы вучні і настаўнікі амаль поўнасцю адвярнуліся ад беларускіх кніжак. Адкуль у Вас матывацыя, каб пісаць вершы, выдаваць кніжкі?*

ВШ: — Я ўсё жыццё думаў, што калі буду пісаць, то хоць крыху стрымаю асіміляцыю. Пішу таксама, каб існаваць у творчым сэнсе. Кожны чацвер, калі бяру ў рукі новую «Ніву», у якой надрукаваны мае вершы, вельмі перажываю. Хачу таксама нешта пасля сябе пакінуць. На шчасце, у апошнім часе ўсё больш пачалі цікавіцца маёй творчасцю, з'явіліся новыя даследчыкі, пераклады.

З: — *Вы надта любіце аўтарскія сустрэчы і гэта, можна сказаць, ужо жывая легенда беластачыны. Аднак, апошнім часам Вы выступаеце толькі ў Беластоку. А што з іншымі гарадамі, вёскамі?*

ВШ: — Нашы настаўнікі тлумачаць тым, што ў іх няма грошай. Тады я кажу: «Не трэба, прыеду на свой кошт!» Але і пасля гэтай заявы не было запрашэнняў. Таму я пачаў шукаць чытачоў у Беластоку, і тут, як не дзіўна, пачалі мяне запрашаць нават у польскія школы, дзе няма навучання беларускай мовы. Бывае, польская моладзь, вывучае мае беларускія вершы.

З: — *Што губляе чалавек, які не чытае кніжак?*

ВШ: — Без кніжак жыццё не мае той лёгкасці, той лепшай якасці.

З: — *Дзякуем за размову і адначасова за самае доўгае творчае сяброўства ў гісторыі беларускай літаратуры!*



Віктар Швед у беластоцкай "чацвёрцы". Фота Міры ЛУКШЫ




## УВАГА КОНКУРС! № 12-15

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 29 сакавіка 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Сіні-сіні матылёк
Вам відзён яшчэ здалёк.
Па яго вы не бяжыце,
Ён стаіць,
Чакае ў жыце.
Так і просіцца ў вянок
сіні-сіні в......

* * *

У паднеб'і б'е гармата.
І вясна святкуе свята.
Нават рэха
за бугром
павітала
першы г...

(Н. А. Сторажава)

Адказ на загадкі № 8-15: раса, мак, грак, неба.

Узнагароды, зборнік вершаў Віктара Шведа «Адплываем з Мора», выйгралі Мая Грыц, Аляксандра Буслоўская з Гайнаўкі, Міхал Тапалянскі, Мартына Чаляеўская з Нарвы, Юлія Жукевіч з Бабікаў. Віншуем! (Вынікі жараб'ёўкі вы можаце пабачыць ужо ў сераду на фейсбуку на сайце Сустрэч «Зоркі»)

# Мая маленькая айчына

*Мая маленькая айчына,*
*Я твой адданы верны сын,*
*Цябе ніколі не пакіну,*
*Мая калыска, мой спачын.*

**Віктар ШВЕД**

Ужо гэтыя словы сведчаць аб вялікай любові да роднай старонкі. Маглі ў гэтым пераканацца ўдзельнікі XII Сустрэч „Зоркі”. Вялікі дыяпазон пачуццяў адлюстроўваюць творы Віктара Шведа, якія не толькі забаўляюць, але і вучаць.

Свой першы твор пісьменнік напісаў яшчэ ў пачатковай школе. Аднак яго „першыя спробы” сустрэліся з насцярожанасцю. Яго настаўніца, прачытаўшы верш, запытала:

— Przyznaj się, bracie, skąd spisałeś ten wiersz?

Хаця паэта гэта забалела, пісаў ён далей.

У сярэдняй школе, як сам прызнаецца, „выжываўся” на школьнай насценгазеце. Закончыўшы беларускія сярэднія школы ў Гайнаўцы і Бельску-Падляшскім, Віктар



Швед падаўся за навукай у Варшаву, знішчаную ў той час вайной.

— Варшава расла на маіх вачах, — кажа пра сталіцу Польшчы спадар Швед.

Пасля быў Варшаўскі ўніверсітэт.

Прабываючы ў Варшаве, паэт не забыў аднак пра Беласточчыну. Яго галоўным натхненнем была настальгія па родным кутку. Пачалося супрацоўніцтва з „Нівай”. Дэбютаваў ён вершам „Я — беларус”. Віктар Швед перш за ўсё піша для дзяцей, якіх вельмі любіць. Сам стараецца спаглядаць на свет вачыма дзіцяці. Паэта хвалюе нецярпімасць, недахоп пашаны паміж людзьмі, здрада сваёй нацыянальнасці, мове, бацькам.

На заканчэнне сустрэчы ўсе ўдзельнікі маглі набыць зборнікі вершаў Віктара Шведа з аўтографам.

Ад сябе хачу падзякаваць пісьменніку за яго працу, за вялікі ўклад у дзіцячую літаратуру і жадаць наступных зборнікаў вершаў.

**Жанэта Роля**, VII кл. ПШ № 3
у Бельску-Падляшскім
(XII Сустрэчы „Зоркі”, 1998 г. Нарва)



## *Віктар Швед у маёй школе*

*Аднаго разу ў маёвы сонечны дзень я ўбачыла паэта. Да гэтага моманту ён быў для мяне толькі сном. Я ведала некалькі яго вершаў, некаторыя радкі нават вывучыла на памяць... І вось сон зрабіўся явай...*

*Я і мае сяброўкі доўга чакалі гэтай сустрэчы. Ды надышоў гэты дзень. І калі адчыніліся дзверы нашай школы, з’явіўся ён — адзін з самых вядомых паэтаў літаб’яднання „Белавежа” — Віктар Швед. Маё жыццё зрушыла з месца. Мой свет віраваў. На той момант я бачыла толькі яго. Гэта ён! Гэта той вялікі паэт!Самая вялікая частка беларускай літаратуры ў Польшчы.*

*У час аўтарскай сустрэчы спадар Віктар шмат расказаў нам пра сябе і сваю сям’ю. Прачытаў нам некалькі сваіх вершаў. І надышоў той момант, у якім я папрасіла ў яго аўтограф. Калі ён распісваўся мне ў кніжцы, на хвіліну зірнуў на мяне і ўсміхнуўся... Як мне было тады прыемна...*

*Гэта самы шчаслівы дзень у маім жыцці.*

*А цяпер кожны вечар я чытаю яго вершы і думкамі вяртаюся да сустрэчы з паэтам-майстрам, ВЯЛІКІМ Віктарам Шведам. І ўночы, калі мне не спіцца, пазіраю на паліцу, дзе стаіць мая асабістая „частка” спадара Віктара — яго кніжка „Адпываем з Мора”.*

***Вераніка Кардзюкевіч**, НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку*

** праца на конкурс “Віктар Швед у маёй школе“*

## Юбілей з 3030 вершамі!

Свой слаўны юбілей Віктар Швед намерыўся адзначыць лікам трох тысяч вершаў. Ну і атрымалася... з горачкай! Трохтысячны верш пад загалоўкам «Невядомая парода» быў апублікаваны ў «Ніве» № 5. Разам з сённяшняй юбілейнай падборкай мы налічылі ажно 3030 вершаў паэта. Віншуем з магутным плёнам!

## Вершы Віктара Шведа

### Добры і дрэнны вучні

— Скажы нам, Мікалаю,
Са школай неразлучны,
Розніца якая
Між добрым і злым вучнямі?

— Злых вучняў бацькі лаюць, —
З усмешкай кажа Коля, —
А добрых пакараюць —
Зайздроснікі у школе.

### Дрэнныя словы

Настаўнік сварыць Янку зноў:
— Дзе навучыўся брыдкіх слоў?
— Навучыўся іх ад тату, —
Сказаў вучань зухавата.

— А ці ведаеш значэнне
Гэтых слоў надзвычай дрэнных?
— Служаць таце няспынна,
Каб завесці машыну.

### Лаўлю шпіёнаў

Маці пытае сына:
— Ці так чытаць павінен?
Кніжку чамусьці гоніш
Што некалькі старонак.

Сын у сваю абарону:
— Кніжку я ўзяў пра шпіёнаў.
Лаўлю я асноўную ніць —
Каб толькі хутчэй іх злавіць.

### Дрэнная каша

Маці пужае Натату:
— Не будзеш есці кашы,
Тады я паклікаць магу
Грозную Бабу-Ягу.

— Не думай, што Баба ўрэшце
Будзе тваю кашу есці,
Якая, заўсёды вядома,
Стае ў маім роце комам.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | Dar | Trąba | |
| Parafia / Posag | Lepiej | Chleb | | Wyda-rzenie | Szewc | | | |
| | Ser | | | | | Banita | | |
| | | As / Baoab | | | | | | |
| | | | Dwa / Dziadek | | | | | |
| | | Dzień / Dzik | | | | | | Ar |
| | Syn / Dzieci | | | | | | Ada | |
| Scena | | | | | Car | | | |
| Widok / Mak | | | | Miód | | | | |
| | | | Miraż | | | | | |

## Польска-беларуская крыжаванка № 12–15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 7:

Сук, радар, зрок, настрой, сайт, брат. Знак, рай, рост, факт, карона, рай. Узнагароды, кніжкі Віктара Шведа «Смяшынкі», выйгралі **Наталля Пашкоўская, Міхал Тапалянскі** з Нарвы, **Зузанна Мішчук, Якуб Аврарчук** з Арэшкава, **Ганна Годзінская, Магда Рошчанка, Наталля Маркевіч** з КШ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Якуб Станкевіч** з Бабік, **Крыстыян Станкевіч, Клаўдзія Сікорская** з Міхалова. Віншуем!

№ 12 [22-03-2015]

# Жыццё паводле Міхала

— Я не спадзяваўся так вялікага зацікаўлення майстар-класамі, — піша ў запрашэнні на мерапрыемства Тамаш Вісьнеўскі. У Майстэрні фільма, гуку і фатаграфіі (МФГіФ) 27 лютага завяршыліся майстар-класы па іконапісанні, якімі кіраваў 31-гадовы Міхал Пякарскі (на здымку чацьвёрты справа) са Старога Ляўкова. — Гэта, мабыць, першы праект у Польшчы, у якім настаўнікам выступіў глуханямы чалавек, — піша далей спадар Вісьнеўскі.

Ці першым з'яўляецца тут праект ці чалавек? Цэлая ідэя вартая ўвагі, але ці сапраўды да інваліднасці абмяжоўваецца яе вартасць? „Прыхадзіце паглядзець, напэўна такога яшчэ не бачылі!” — заклікалі некалькі стагоддзяў таму кірмашовы натоўп танныя цыркавыя фокуснікі.

Герой міхалоўскай сустрэчы Міхал Пякарскі аказаўся сапраўды асаблівым чалавекам, пра што сведчыла, між



іншым, колькасць добрых людзей, якія прыйшлі яго падтрымаць. Дасыта можна было наесціся хатнімі пірагамі, спечанымі ўдзячнымі ўдзельніцамі майстар-класаў. Іконапісаннем захапіў ён дарослых і малодых. Пяцёрка міхалоўскіх гімназістаў — удалых дэбютантаў у гэтай галіне, з нецярпеннем чакае чарговых урокаў. Што цікава, у шматлікіх рэфлексіях з праведзеных заняткаў не прысутнічала тэма глуханематы. Замест таго можна было пачуць пра мастацкі і педагагічны талент настаўніка, які ствараў спрыяльную для творчасці атмасферу, а таксама дапамог вучням паверыць ва ўласныя магчымасці.

У час сустрэчы Міхал не распавядаў пра сябе шмат. Ён папросту прысутнічаў целам і душой. Гэта чалавек з добрай энергіяй, якую ўмее і хоча раздзяліць з іншымі. Гэта нашмат больш, чым не адна загадзя падрыхтаваная прамова.

Іканапісныя майстар-класы — гэта ўжо трэці праект Тамаша Вісьнеўскага з Міхалам у галоўнай ролі. Была выстаўка ікон, быў таксама створаны фільмавы дакумент „Жыццё паводле Міхала”.

— Міхал удастоены звання амбасадара нашай зямлі, — гаворыць пасля праекцыі фільма спадар Вісьнеўскі. А сам герой скардзіцца ў ім на аднастайнасць свайго жыцця і недахоп сяброў.

— Гэта не так, — тлумачыць парушаны тымі словамі ўдзельнік мерапрыемства бацюшка Яраслаў Шчэрбач. — У цябе выдатная сям'я, гатовая падтрымаць у любую хвіліну і шмат-шмат сяброў. Мы прыйшлі тут спецыяльна для цябе.

Першую ікону Міхал напісаў маме. Расхвалявалася да слёз:

— Я ўжо не баюся, — кажа Бажэна Пякарская, — што маё дзіця зробіць сабе крыўду. Я пра яго спакойная. Справа ў тым, што дзякуючы іконам Міхал адчувае сябе патрэбным. Гэта самыя лепшыя падарункі, якія заўсёды спраўджваюцца. Яго любяць і шануюць. Найчасцей людзі прыязджаюць да нас не дзеля пакупкі іконы, але каб проста спаткацца. Мы да роскашы не звыкліся, а добрае слова важнейшае за грошы.

Неўзабаве ў ляўкоўскай хаце Пякарскіх паявіцца ўласная галерэя, наведаць якую ўжо цяпер шчыра ўсіх запрашаюць. Пасля ўдалых майстар-класаў у нававольскім госпісе і міхалоўскай МФГіФ Міхала чакаюць у Белавежскім нацыянальным парку.

А Міхал марыць, каб схадзіць на канцэрт у Падляшскую оперу. Кажа, што вельмі любіць музыку.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# Павешаны КАЛІНОЎСКІ і КАЛІНОЎСКІ „вешальнік”

**У жніўні 1863 года паўстанцамі за дапамогу царскім войскам быў павешаны жыхар вёскі Гаўрылкі Бельскага ўезда Франц Каліноўскі. Удзельнікі забойства так і засталіся невядомымі. Аднак пры праглядзе падобных спраў, расійскія жандары пэўны час падазравалі іншага Каліноўскага — Вікенція з вёскі Аленды, які абвінавачваўся ў саўдзеле ў павешанні адстаўнога салдата Марціна Тамчука.**

Паўстанне 1863-1864 гг. завяршылася паражэннем. Пачаўся перыяд расправы над яго ўдзельнікамі і спачуваючымі ім. Яшчэ на працягу некалькіх гадоў ішлі судовыя разбіральніцтвы, у паліцыю накіроўваліся даносы, а ў Сібір выпраўляліся прызнаныя вінаватымі „палітычныя злачынцы”.

Асаблівую складанасць у пошуках вінаватых уяўлялі справы аб павешаных за дапамогу царскім войскам і ўладам. Сярод іх — справа аб селяніне вёскі Гаўрылкі Францу Каліноўскім, 40 гадоў, каталіку па веравызнанні.

У жніўні 1863 г. паўстанцы напалі на яго дом. У хаце ў гэты час знаходзіліся жонка Каліноўскага — Марыянна, дзеці — сямігадовы Антон і трохгадовы Караль. Франц быў схоплены і забраны ў лес. Доўгі час яго далейшы лёс быў невядомы і толькі 24 кастрычніка 1864 г. станавы прыстаў Валіцкі зрабіў канчатковае заключэнне пра павешанне Франца Каліноўскага. Яго сям'я апынулася ў цяжкім матэрыяльным становішчы, пазбаўленая адзінага кармільца. Таму 4 ліпеня 1864 г. міравы пасрэднік Бельскага ўезда паведамляў кіраўніку горада Бельска з уездам палкоўніку Барэйшу, што заяўляў у Гродзенскай губернскай установе па сялянскіх справах аб скасаванні нядоімкі за мінулы год і аброка за 1864 г. з сялянкі Калечыцкай воласці вёскі Гаўрылак Марыянны Каліноўскай, якая пражывала ў частцы вёскі, прыналежнай памешчыку Іосіфу Бернардаву Бароўскаму.

Шукаючы вінаватых у павешанні Франца Каліноўскага, царскія ўлады звярнулі ўвагу на іншыя прыклады падобных спраў і асоб, падазраваных у здзяйсненні злачынстваў. Так, 15 ліпеня 1864 г. была распачатая справа аб павешанні адстаўнога салдата Марціна Тамчука.

Адстаўныя салдаты знаходзіліся на перыферыі сацыяльных адносін. Яны былі вымушаны ў маладым узросце адправіцца ў рэкруты, гублялі сувязь з вясковым асяроддзем, са сваёй сям'ёй, страчвалі магчымасць атрымаць у спадчыну зямельны надзел. Вярталіся ж у сталым узросце, праз пару дзясяткаў гадоў. Моцная імперская прапаганда ды ўдзел у баявых дзеяннях супраць туркаў у Крыме ці горцаў на Каўказе ператваралі салдата, нават пасля войска, у адданага служачага „Цара-бацюшкі”. І калі афіцэры шляхецкага паходжання пасля адстаўкі і вяртання на радзіму з пачаткам паўстання 1863 г. у шматлікіх выпадках сталі ў шэрагі паўстанцаў, то адстаўныя салдаты сялянскага паходжання выступалі ў падтрымку царскіх улад. Як, напрыклад, Пётр Счарэшка, служачы маёнтка Рудаўка Гродзенскага ўезда, які даставіў у жніўні 1863 г. схопленага паўстанца Скірмунта ў Беласток. Прычым пасля гэтага паўстанцы з'явіліся ў маёнтак, які належаў памешчыку Касакоўскаму, ды паспрабавалі ў таго атрымаць інфармацыю пра месцазнаходжанне Пятра Счарэшкі. Аднак, нягледзячы на катаванні да паўсмерці — збіццё па галаве і ўдары шпіцрутэнамі па ўказальным пальцы — Касакоўскі так і не выдаў свайго працоўнага, які ў гэты час даглядаў жывёлу, і таму начаваў на лузе. Калі Счарэшку пашанцавала, то Тамчук быў пакараны за дапамогу царскім уладам і войску.

У павешанні Тамчука абвінавачваліся Вікенцій Каліноўскі, Іван Мачульскі і Франц Шкапоўскі.

Вікенцій Каспераў сын Каліноўскі, 45 гадоў, каталік, жанаты, мешчанін горада Бельска. Валодаў карчмою ў вёсцы Аленды.

Іван Вікенцьеў сын Мачульскі, 44 гадоў, каталік, жанаты, меў дзяцей. Шляхціц вёскі Мачыдлы Бельскага ўезда, служыў лясніччым у вёсцы Аленды.

Франц Іванаў сын Шкапоўскі. Каталік, халасты, селянін вёскі Рудка Бельскага ўезда, служыў пісарчуком у валасным упраўленні той жа вёскі.

Данос на іх падаў селянін вёскі Гаі Васіль Леанчук, у якога Тамчук працаваў на гаспадарцы. Прычым павешанне адбылося яшчэ ў ліпені 1863 г., а данос аб ім быў пададзены толькі праз год.

Селянін Васіль Леанчук паказаў на следстве, што ў ліпені 1863 г. яго працоўны адстаўны салдат Марцін Тамчук адлучыўся ў мястэчка Браньск па сваіх патрэбах. Прычым гэта ён рабіў рэгулярна, паведамляючы ўладам прозвішчы людзей, якія супрацоўнічалі з паўстанцамі. Але паколькі праз два дні Тамчук не вярнуўся, то на трэці дзень Леанчук адправіўся яго шукаць.

Па дарозе ў Браньск ён наведаўся ў карчму вёскі Аленды і запытаўся карчмара Каліноўскага, ці не ведае ён Тамчука. Франц паведаміў, што той заходзіў, але ўжо павінен быў вярнуцца ў Гаі. На адваротнай дарозе з Браньска, Леанчук зноў завітаў у карчму Каліноўскага. Падчас размовы карчмар запытаўся: „Ці знайшоў Тамчука?”. І калі атрымаў адмоўны адказ, прамовіў: „Не шукай яго больш, бо яго няма на свеце. І калі будзеш шукаць, то і цябе на свеце не будзе”.

У карчме Леанчук размаўляў з фурманам Нікадзімам Міхальчуком, які паведаміў яму, што Тамчук заходзіў у карчму разам з іншымі салдатамі. Аб яго прыходзе карчмар Франц Каліноўскі паведаміў пісарчуку Шкапоўскаму, які выконваў абавязкі паўстанцкага сувязнога. А той у сваю чаргу перадаў інфармацыю пра прыход Тамчука ў атрад, размешчаны каля вёскі Юзэфін. Адстаўнога салдата падазравалі ў супрацоўніцтве з царскай паліцыяй і лічылі вінаватым у арышце некалькіх чалавек. Таму ў хуткім часе ў карчму ў Алендах прыехалі шасцёра паўстанцаў, якія схапілі Тамчука і загадалі яго адвесці ў вёску Юзэфін Нікадзіма Міхальчука. Што сталася з адстаўным салдатам, Міхальчук не ведаў. Але зрабіў дапушчэнне, што той быў павешаны. Каб удакладніць лёс свайго супрацоўніка, Васіль Леанчук адправіўся за больш дакладнымі звесткамі да мясцовага лясніччага Яна Мачульскага. Пры сустрэчы апошні запытаўся: „Навошта Тамчук хадзіў у Браньск? Больш хадзіць цяпер не будзе, бо яго ўжо няма”.

Як на допытах, так і на вочных стаўках з Леанчуком ні Мачульскі, ні Каліноўскі, ні Шкапоўскі не прызнаваліся ў сваёй прыналежнасці да забойства Тамчука. А Каліноўскі на вочнай стаўцы паведаміў, што ўвогуле не ведае салдата Тамчука і нічога не казаў пра яго Леанчуку. У ваенным жа судзе дадаў, што селянін Леанчук абвінавачвае яго па злосці, бо ў выніку спрэчкі ў карчме Каліноўскі пабіў Леанчука, пасля чаго той і падаў на яго данос.

Пры правядзенні ж мясцовага дазнання 8 жыхароў вёскі Аленды пра Каліноўскага і Мачульскага і 6 жыхароў вёскі Рудка пра Шкапоўскага сказалі, што адзначаныя людзі нічога падсуднага не зрабілі і ў паўстанні ўдзелу не бралі. Аднак царскія ўлады заступніцтва вяскоўцаў не палічылі за доказ невінаватасці, паколькі ў той жа час у адносінах Франца Шкапоўскага была распачатая іншая справа — аб распаўсюджванні звестак, атрыманых ад паўстанцаў сярод сялян, якіх ён таксама схіляў да ўдзелу ў паўстанні і загадваў збіраць па адным рублі і булцы хлеба на карысць паўстанцаў. Яго справу разглядалі па 2-й катэгорыі. Таму падазрэнне падала на Каліноўскага ды Мачульскага.

31 кастрычніка 1864 г. Бельская ваенна-следчая камісія па палітычных справах накіравала начальніку горада Бельска з уездам рапарт аб выніках справы і звярталася да яго за канчатковым рашэннем. 6 снежня да гэтай справы далучыўся гродзенскі губернатар, які прыняў рашэнне аб арышце Вікенція Каліноўскага і суправаджэнні яго ў гродзенскую турму, куды быў накіраваны і шляхціц Іван Мачульскі, абвінавачаны „в знании о повешении мятежниками отставного солдата Томчука”.

Расследаваннем заняўся Часовы палявы аўдытарыят, які высветліў, што Тамчук сапраўды заходзіў у карчму вёскі Аленды, адкуль быў вывезены ў лес каля вёскі Юзэфін для павешання. Але ў адносінах падсуднага Франца Каліноўскага было прызнана „по недостатку законных доказательств к изобличению его в соучастии с мятежниками в повешении отставного солдата Томчука”, выслаць разам з сям'ёй у Томскую губерню „для водворения там на казенных землях ведомства Государственных имуществ”. Маёмасць Каліноўскага (у першую чаргу карчму ў вёсцы Аленды) было вырашана прадаць з аўкцыёна і атрыманыя сродкі выкарыстаць на пакрыццё выдаткаў урада па перасяленню. Шляхціц Іван Мачульскі быў прызнаны нявыкрытым у веданні пра павешанне Тамчука і па рашэнню гродзенскага губернатара вызваляўся з-пад арышту з вяртаннем на сталае месца жыхарства з аддачаю на добранадзейнае даручальніцтва аднавяскоўцаў. Палявы аўдытарыят звярнуўся па заключэнне да камандаючага войскамі Віленскай акругі. На календары было 18 жніўня 1865 г. Паўстанне даўно скончылася, а край працягваў адчуваць яго наступствы.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК**

# Віктару Шведу 90 — паэтычныя віншаванні

## Віктару Шведу на 90 юбілей нараджэння

*Міне ўжо семдзесят гадоў зімою,
Калі сустрэў Цябе я ў беларускай школе ў
Бельску між сяброў,
Закончыў я тады з Табой гімназію вясною,
І лёс нас скіраваў да розных гарадоў.
Бо беларускі наш ліцэй закрылі ўлады,
Закончыць мусіў польскі я праз два гады,
А Ты тады пакінуў Бельск наш без спагады,
На доўгі час я загубіў Твае сляды.
Пасля я пяць гадоў жыў над ракой Нявою,
А Ты ў Варшаве веды здабываў,
Я раз калісь сустрэўся там з Табою,
Калі ў студэнцкім інтэрнаце начаваў.
Хоць потым лёс нас па шляхах жыццёвых
Змушаў ісці ўвесь час да розных мэт,
Шляхі ўсе нашы зблізіў воблік каляровы
Жывой паэзіі чароўны сілуэт.
Калі нам вестка загучала, як марціра,
Што ўжо тыднёвік беларускі ўбачыў свет,
Збудзіла нас паэзіі жывая ліра,
І кожны з нас пісаць стараўся, як паэт.
Тады я зноў Цябе сустрэў на семінары,
У Беластоку ў «Ніве», за сталом,
Даведаўся тады, што пры варшаўскім тратуары
Нас госціць там адзін супольны дом.
Мы з іншымі былі тварцамі «Белавежы»,
Якая хутка скончыць шэсцьдзесят гадоў,
І свеціць, як рэфлектар на высокай вежы,
Сваімі творамі і славаю тварцоў.
І на старонках «Нівы» мы пісалі вершы,
На беларускай мове ўласнаю рукой.
Ты змусіў выдаць мне мой зборнік вершаў першы
І выйшлі іншыя з падмогаю Тваёй.
Жадаю я Табе і шчасця, і здароўя,
На дзевяносты твой чароўны юбілей,
Каб Ты да ста гадоў дажыў без белакроўя
І каб пісаў у «Ніву» вершы для дзяцей.*

**Дзмітры ШАТЫЛОВІЧ**

## Віктар Швед

***у 90-годдзе з дня нараджэння паэта***

*„Белавежац” — першы з першых,
сябра дарослых, малых, наймейшых,
ідэаліст нязломны,
змагар нястомны,
Малой Айчыне верны
і Мору ў родным моры,
вялікі майстар у тварэнні,
любові сілаю натхнёны,
з пакаленняў у пакаленні
годна нясе наш сцяг надзеі —
жывое, несмяротнае, святое
беларускае паэтычнае Слова!*

*PS. Адна ў нас песня, адна малітва.
Многае лета, дружа Віктар!*

**Юрый БАЕНА**

## Паэтычны сакавік

***Віктару Шведу***

*Трава зазелянела на лугах,
Такім радком усе верш мы пачыналі.
І над радком узляцеў вясёлы птах
(мо бусел ☺, а і мы ляцелі далей.
Вось жарт той паэтычны ў сакавік,
А ж вечная вясна канчацца нам не будзе!
З маркоўкай замест носа снегавік
Стапіўся і ўсмешку аддаў людзям.
Такое ўбачыць, трэба быць дзіцём.
Насіць пялюшкі поўныя ад смеху.
Узрост паэта — тут ён ні пры чом.
Каб дараслі мы і да смеху, і да грэху!*

**Міра ЛУКША**



## Dziewięćdziesiąt

***Wiktorowi Szwedowi***

*Dziewięćdziesiąt dużo,
ale nie dla poety
Napisałeś prolog do
następnej księgi
Jesteś w nowej przestrzeni
Widzisz czekających
na myśl poetycką
Wiatr czasu nie zmiecie
Twojego słowa
Jest żywe*

**Borys Russko**

## Drogiemu Wiktorowi Szwedowi na 90. Rocznicę Urodzin

*Drogi Wiktorze, Królu na tronie,
spójrz, olimpijskich bogów huf bieży!
Dziś Ci Atena przystroi skronie
liściem dębowym, tym z Białowieży.
Twoje Śmieszynki przybiegły również
za Twe wierszyki dziękować głównie.
Twoje Śmieszynki dawno dorosły.
Skończyły studia, do pracy poszły.
Natalia, Janek, Kuba i Wacek,
Maryla, Bronia, Rafał w tej chwili,
gdzieś za granicą znaleźli pracę.
Dziadkom dzieciństwo swe zostawili.
A Ty wciąż hoży, skowronek polny,
cieszysz się dalej wiekiem przedszkolnym.
Bo ten poetą pozostać zdoła,
kto ma wiek dziecka, duszę anioła.
A gdy mu spalą dzieciństwa chaty,
nikt go już w smutku tym nie ukoi.
Wtedy jest starcem już niebogatym,
jak Priam na gruzach ojczystej Troi.
A Twoja Troja, drogi Wiktorze,
To wieś rodzinna, co zwie się Morze.
Stajesz samotny na swym podwórzu,
wśród kaczek, gęsi, kur i indyków
jako współrządca. A ten Twój urząd
strażnika ruin, jak ten Gerwazy
odnawiasz w snach swych po tysiąc razy.
Słyszysz, jak skrzypi żuraw studzienny?
Czujesz? Chleb pachnie świeżym zaczynem!
Widzisz, jak słońce traktem codziennym
zmierza po niebie na odpoczynek?
To nasz, Wiktorze, podlaski Eden.
Gdy przemijanie nam go oddala,
tylko poeta wygnania biedę
umie w pamięci serca utrwalać.
Lat dziewięćdziesiąt, to nie tak wiele,
gdy czas potrzebny na dalszą twórczość.
Jest życiodajny energii przelew,
który pozwala, że się nie kurczą
dni naszych tęsknot. A więc Wiktorze,
niechaj Ci będą one jak zorze,
zawsze poranne. W tę piękną chwilę
życzę, by wiatr Cię radością owiał,
byś dalej żubrem był i motylem.
— Czego Ci życzę najwięcej? — Zdrowia!
Niech żona Wala z córką Natalką,
jedna i druga, będą westalką
płomienia Twojej poezji boskiej!
Niech mają o nią codzienną troskę!*

**Franciszek KOBRYŃCZUK**

* * *

***Wiktorowi Szwedowi***

*jesteś jak drzewo
wrośnięte w ziemię blisko Morza*
Twojego centrum świata
który wciąż niesiesz w sobie
zachwycony wolnością dzieciństwa
światem do horyzontu płotu
pierwszych zadziwień
w Księdze Rodzaju zapisani najbliżsi
proste rozmowy przy kuchennym stole
na skrzyżowaniach dróg wiele pytań
zabłąkany w nocy głos harmonii
z czułością opowiadasz historię miejsca
świętego kąta który Cię ocala
jak łaskę przyjmujesz przychodzące z sadu
dojrzałe słowa...*

**Morze — nazwa rodzinnej wsi Wiktora Szweda*

*23 marca 2015 r.*

**Leonarda Szubzda**

1 ☞ працяг

# Паэт пахаў і смакаў Бацькаўшчыны

**«Ніва»: — Лёс мог так распарадзіцца, што не сталі б Вы адукаваным, беларускім інтэлігентам, а толькі народным, сялянскім паэтам. Не задумваліся Вы часамі над тым ці спраўляліся б так добра з гаспадаркай, як робіце гэта з паэтычным словам?**

Віктар Швед: — Задумваўся і то не раз. Але хіба даў бы рады. Забыўся я сказаць, што мой бацька быў часткова інвалідам і меў хворую нагу, што значна абмяжоўвала яго працу ў полі. Ужо з трынаццаці гадоў то я араў усе нашыя ўчасткі, касіў лугі, вывозіў гной, малаціў. Проста прывучаўся штодзённай працай пераняць поўнасцю гаспадарскія абавязкі. Але адначасна мае бацькі бачылі маю ахвоту і лёгкасць да навукі і не перашкаджалі мне адляцець у далёкі і шырокі свет. За гэта я ім удзячны да канца сваіх дзён. А гэтак званы лёгкі хлеб у Варшаве аказаўся для мяне на доўгія гады часта надта горкім і таксама аблітым слязою з-за непаладкаў у асабістым жыцці.

**«Ніва»: — А не думалі Вы там, у Варшаве, пачаць навуковую кар'еру. Закончылі Вы тры факультэты: міжнародныя адносіны, журналістыку, беларускую філалогію. Гляньце, нашыя знакамітыя пісьменнікі-«белавежцы» Аляксандр Баршчэўскі, Ян Чыквін сталі прафесарамі. Навуковыя замашкі мелі пакойныя Мікола Гайдук і Сакрат Яновіч. А не хацелася б Вам бачыць перад сваім прозвішчам цяпер званне прафесара?**

Віктар Швед: — Не, ніколі не цягнула мяне ў бок навукі. Здабываў я веды на тое, каб добра карыстацца польскай і беларускай мовамі. Увесь час марыў працаваць са словам. Таму ўсё сваё жыццё да выхаду на пенсію адпрацаваў у адным з буйнейшых польскіх выдавецтваў «Ксёнжка і ведза», вычытваючы і рэдагуючы кніжкі. Пісаць вершы па-беларуску, ездзіць на аўтарскія сустрэчы на Беласточчыну, друкавацца ў «Ніве» — гэта быў сэнс майго жыцця. А пасля выхаду на пенсію — адразу з'ехаць бліжэй да сваіх, сюды, у Беласток.

**«Ніва»: — Месяц сакавік гэта таксама і час Вашага літаратурнага дэбюту ў нашым тыднёвіку. У «Ніве» нумар 12 ад 24 сакавіка 1957 года з'явіўся верш трыццацідвухгадовага Віктара Шведа «Я — беларус». Для мяне гэта надта падазронае такое акурат супадзенне з Вашай датай нараджэння — 23 сакавіка? То як было ў сапраўднасці?**

Віктар Швед: — Я мушу ўпершыню прызнацца. Валкавыцкі сапраўды прымеркаваў мой сур'ёзны старт у беларускую літаратуру да майго дня нараджэння. Калі я даслаў свае вершы ў «Ніву» — яны яму спадабаліся. Ён упэўніўся толькі ці Віктар Швед гэта не літаратурны псеўданім. Тады была такая мода, што амаль усе скрываліся пад псеўданімамі. А некаторыя мо баяліся крытыкі ў свой адрас і з-за якасці сваёй творчасці і за тое, што займаюцца такім нечым несур'ёзным як пісанне, як здавалася многім. Адным словам зрабіў Валкавыцкі для мяне вельмі класны падарунак. Калі я пачаў пісаць сатырычныя вершы, цыкл якіх два гады працягваўся на старонках газеты, то з Валкавыцкім дамовіліся, што для іх я абіраю псеўданім Андрэй Самасей. Вось і ўзнікла такая арцель.

**«Ніва»: — Але некаторыя пісьменнікі раней сцвярджалі, а другія і зараз выказваюцца, што і Вы таксама занадта раўнівыя за крытыку ў адрас сваёй паэтычнай творчасці?**

Віктар Швед: — Ёсць дзве розныя справы. Зусім адно — гэта звярнуць увагу на недастаткі твора, ці хібы моўных кантэкстаў. А другое калі пастаянна хтосьці насміхаецца і над аўтарам, і над усёй ягонай творчасцю. Гэта крыўдлівае кожнаму. І таму ў адным са сваіх вершаў я адказаў усім ім такой фразай «а я жыву і ўсё ж пішу». Відаць на злосць усім нядобразычліўцам дацягнуў я да дзевяноста. Зараз, апрача вершаў друкаваных у «Зорцы» і «Ніве», працую над асобнай кнігай мемуарных успамінаў ад нараджэння аж да... сваёй смерці. (*чуецца здаровы смех Віктара Шведа*).

**«Ніва»: — А кніжку ўспамінаў Віктара Шведа наша рэдакцыя мае намер выдаць да канца гэтага года. Будзе што чытаць. Дзякуем за размову і развітваемся ў творчым настроі.**

**Гутарыў Яўген ВАПА**

*Беласток, 22 сакавіка 2015 года*

*Спадару Віктару ШВЕДУ*
*Паэту, перакладчыку,*
*грамадскаму дзеячу*

*Шаноўны Віктар!*
*Ад імя ўсіх „белавежцаў"*
*Управа літаратурнага аб'яднання „Белавежа"*
*шчыра віншуе Вас з высокім жыццёвым Юбілеем 90-годдзя і жадае моцнага здароўя і новых поспехаў у творчасці.*
*Віншуем Вас як*
***выдатнага і заслужанага беларускага Паэта,***
***узнагароджанага медалём Скарыны,***
***аўтара шматлікіх кніг,***
*Паэта, які на самым пачатку свайго творчага шляху*
*заявіў на ўсю Польшчу:*
***Я беларус і гэтым ганаруся***
*і гэтай паэтычнай формулай ярка і адназначна дакладна выявіў нацыянальна-ідэйную тоеснасць, нацыянальную годнасць беларуса, гістарычную памяць і маральную непадкупнасць як сваю, так і ўсіх беларускіх пісьменнікаў, сцвердзіўшы сутнаснае патрабаванне на службе роднаму.*
***Няхай доўжыцца свята Вашага жыцця!***




# http://lohvinau.by

Ёсць у цэнтры беларускай сталіцы месца, якое даўно стала прыцягальным для творчай інтэлігенцыі. Гэта Літаратурны дом „Логвінаў" — адна з адзінкавых кропак адасобленай беларускасці ад цяперашняй псеўдабеларускай атмасферы, насаджанай постсавецкімі ідэолагамі лукашэнкаўскага разліву.

Дзякуючы інтэрнэту, мы можам віртуальна завітаць у гэты дом, калі набярэм на сваім камп'ютары яго адрас: **http://lohvinau.by**. Тады перад нашымі вачыма адкрыецца даволі прывабнае і ў той жа час заспакойваючае вока выяўленне, размешчанае на платформе WordPress. Там нямнога рубрык, але іх хапае, каб цалкам зразумець сутнасць Літаратурнага дома, яго ідэйную накіраванасць. У гэтым, дарэчы, значна дапамагае інфармацыя, змешчаная на старонцы „Пра нас", выйсце на якую знаходзіцца ўверсе цэлага выяўлення.

„Логвінаў" паўстаў у 2000 годзе як невялікае выдавецтва, што спецыялізавалася на выданні альтэрнатыўнай літаратуры. Сёння, праз 15 гадоў сваёй дзейнасці, „Логвінаў" з'яўляецца вядучай культурнай установай, што не толькі забяспечвае выхад незалежнай інтэлектуальнай і культурнай прадукцыі, але таксама фармуе густы чытацкай публікі ў Беларусі. Усе гэтыя гады выдавецтва актыўна фармавала літаратурны ландшафт краіны, публікуючы і папулярызуючы кнігі знакавых для беларускай сітуацыі пісьменнікаў: Андрэя Хадановіча, Уладзіміра Арлова, Алеся Разанава, Валянціна Акудовіча, Наталкі Бабінай, Ігара Бабкова, Адама Глобуса, Вольгі Гапеевай, Альгерда Бахарэвіча, Віктара Марціновіча, Артура Клінава, Паўла Касцюкевіча, Марыі Мартысевіч, Андрэя Адамовіча", — распавядаецца ў прэзентацыйным тэксце пра цэлы Літаратурны дом „Логвінаў", дзе кнігарня „логвінаЎ" з'яўляецца адной з яго частак.

«Культурная палітыка выдавецтва рэалізуецца праз кнігарню „логвінаЎ", якая ўжо 5 гадоў дзейнічае як адзін з цэнтраў літаратурнага жыцця Беларусі. Гэта месца прэзентацыі кніжнай прадукцыі не толькі „Логвінава", але і большасці незалежных і дзяржаўных выдаўцоў Беларусі. На працягу некалькіх гадоў кнігарня „логвінаЎ" арганізоўвала ў Беларусі выступы літаратараў з Германіі, Польшчы, Чэхіі, Швецыі, Украіны, Літвы, Ізраіля, Швейцарыі, Японіі, а таксама праводзіла фестывалі замежных літаратур, якія мелі на мэце пазнаёміць беларусаў з найлепшымі набыткамі сусветнай літаратуры, і шырэй — культуры. Кнігарня „логвінаЎ" працуе ў цэнтры Мінска як частка незалежнай альтэрнатыўнай прасторы „Галерэя Ў"», — кажуць уладальнікі сайта і Літаратурнага дома, стваральнікам і ідэйным натхняльнікам якога з'яўляецца выдавец Ігар Логвінаў.

І кнігарня, і Літаратурны дом гэта не толькі нейкае вялікае адрозненне ад сучаснай беларускай рэчаіснасці, але ў першую чаргу гэта месца, дзе галоўным лічыцца думка, апранутая ў слова. Таму не дзіўна, што другая назва сайта — „Тэрыторыя словаў", і ходзіць там пра словы, якія былі выказаныя ў літаратурных творах. Пра словы, якія былі надрукаваныя, можна паглядзець на старонцы „Тэксты", а пра словы, якія выказалі прылюдна — на „Літаратурнай тэлевізіі".

У кнігарні немагчыма без прэзентацыі кніг — гэта адна з галоўных функцый падобных установ. Расповеды пра новыя выданні мы знойдзем на старонцы „Кніжная палічка". Але сёння „логвінаЎ" заняты больш не прэзентацыямі, а выжываннем, бо балота лукашэнкаўскага антыбеларускага цемрашальства пагражае паглынуць выспу беларускага літаратурнага натхнення. Аб праблемах кнігарні пойдзе ў расповедзе пра наступны сайт.

**Уладзімір ЛАПЦэВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара



Адзін з айцоў БНР

# 120 гадоў з дня нараджэння Тамаша ГРЫБА

Беларускі грамадска-палітычны дзеяч Тамаш Грыб нарадзіўся 19 сакавіка 1895 г. у вёсцы Паляны Свянцянскага павета (цяпер у Смаргонскім раёне). Вучыўся ў Пецярбургу на псіханеўралагічным факультэце, дзе пазнаёміўся з некалькімі беларускімі дзеячамі і далучыўся да нацыянальнага руху. У Першую сусветную вайну быў мабілізаваны ў расійскую армію і адпраўлены на Румынскі фронт. Быў дэлегатам ад вайсковай арганізацыі на Усебеларускім з'ездзе ў Менску ў снежні 1917 г., дзе яго арыштавалі бальшавікі. Пасля абвяшчэння БНР стаў сябрам яе Рады і Выканаўчага камітэта. Ва ўрадзе Язэпа Варонкі — народны сакратар земляробства. Тамаша Грыба можна лічыць адным з айцоў БНР. Уваходзіў у Цэнтральную беларускую вайсковую раду. Быў дэлегатам 3-га Усерасійскага з'езда саветаў у Петраградзе, на якім пратэставаў супраць разгону Усебеларускага з'езда і падзелу Беларусі. У студзені-сакавіку 1919 г. выдаваў у Вільні газету „Грамадзянін" — орган Беларускай сацыялістычнай грамады. Адзін з ініцыятараў стварэння і кіраўнікоў Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў.

Летам 1919 г. Тамаш Грыб быў арыштаваны польскімі ўладамі як супрацоўнік гродзенскай газеты „Родны край", вясной 1920 г. — як сябра Мінскага падпольнага камітэта. На час зняволення ў гарадзенскай турме прыпадае гісторыя рамантычных стасункаў Грыба з Паўлінай Мядзёлкай. Пазней Грыб быў інтэрнаваны ў лагер Домбе пад Кракавам, адкуль уцёк. З канца 1920 г. быў у Коўне, дзе ўдзельнічаў у выданні газеты „Сялянская доля", друкаваўся пад псеўданімамі Т. Глеба, Антон Небарака. З восені 1922 г. жыў у Празе. Там у 1928 г. скончыў філасофскі факультэт Карлава ўніверсітэта. Абараніў доктарскую дысертацыю на тэму „Пытанне народу і нацыі". Быў сябрам замежнага бюро БПСР, браў актыўны ўдзел у працы Беларускага культурнага таварыства імя Францішка Скарыны, Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый. З 1930 г. працаваў у Празе ў Славянскай бібліятэцы. У 1934-1938 гг. працаваў загадчыкам Беларускага загранічнага архіва, складаў бібліяграфію па беларусазнаўстве. Супрацоўнічаў з часопісамі „Перавясла", „Іскры Скарыны", „Студэнцкая думка", „Золак" і іншымі. Аўтар артыкулаў па гісторыі Беларусі, такіх як „Да пытання аб паходжанні герба Пагоня", „Віленскае пытанне", уздымаў філасофскія пытанні ў такіх артыкулах як „Шляхам Скарыны", „На два франты", „Нацыя як прадмет навуковага вывучэння", „На шляху да вызвалення", „Рэлігійная справа Беларусі". Маючы сацыялістычныя погляды, стаяў на пазіцыях крытыкі таталітарных падыходаў практыкі пабудовы сацыялізму.

Пры жыцці Тамаш Грыб паспеў апублікаваць урыўкі свайго рамана „Паўстанцы", перакладаў на беларускую і чэшскую мовы брашуры грамадска-палітычнага кірунку. Пакінуў пасля сябе эпісталярную спадчыну. Памёр Тамаш Грыб 25 студзеня 1938 г. ва ўзросце усяго 43 гадоў, пахаваны на знакамітых Альшанскіх могілках у Празе. Жыццю і дзейнасці Грыба быў цалкам прысвечаны апошні 8-ы нумар часопіса „Золак". У сённяшняй Беларусі Тамаш Грыб не ўшанаваны ніяк.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# *З ДНЁМ ВОЛІ!*

*Дарагія суродзічы – беларусы!*

*Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі віншую вас з нашым вялікім сьвятам – Днём Волі – угодкамі таго слаўнага 25-га сакавіка 1918 году, калі беларускі народ абвясьціў сьвету, што ён „скідае апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці” і што „ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка – незалежная, вольная дзяржава”.*

*Дзякуючы адвазе і рашучасьці нашых продкаў, мы ўвайшлі не як расейская губэрнія ў склад Савецкага Саюзу, а – прынамсі на паперы – як асобная рэспубліка, а ў 1991-м годзе мы дамагліся Незалежнасьці, і Рэспубліка Беларусь як дзяржава заняла сваё адметнае месца на паверхні Зямлі.*

*Народу нашаму прыйшлося перажыць шмат бедаў, і мы яшчэ іх далёка не пераадолелі. Але Беларусь жыве! Беларусь ёсьць часткай сям'і незалежных народаў.*

*На жаль, імпэрскі цмок, на якога шмат нашых людзей перасталі зьвяртаць увагу пад уплывам штодзённага прамываньня мазгоў маскоўскай і прамаскоўскай прапагандай, зноў разбудзіўся. Незалежнасьць Беларусі зноў апынулася пад пагрозай і ў сёньняшніх умовах мы ня здолеем яе абараніць без дапамогі цывілізаванага сьвету.*

*Дарагія суродзічы, любоў да свайго краю, салідарнасьць між намі і нашыя паводзіны ёсьць адзінай зброяй, якой мы валодаем, каб захаваць незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны. Толькі калі цывілізаваны сьвет зразумее, што мы ёсьць стары эўрапейскі народ, які нічым ня розьніцца ад іншых эўрапейскіх народаў, і што мы таксама заслугоўваем на эўрапейскія ўмовы жыцьця ў сваёй уласнай вольнай дзяржаве, ён зьверне ўвагу на нашую нядолю.*

*Але дзеля гэтага трэба, каб іншыя народы бачылі, што мы заслугоўваем на іхні давер і іхнюю павагу. Вольны сьвет не паможа маскоўскім паплечнікам ці саюзьнікам. Нават калі мы ўважаем, што дапамога, якую аказаў Захад Украіне, была недастатковай, каб абараніць яе тэрытарыяльную цэласнасьць, – бяз салідарнасьці Захаду палова Украіны была б у руках маскоўскага агрэсара. Бяз гэтае салідарнасьці не дамо рады і мы.*

*Караткевіч казаў: „І адзін можа!” Дык заклікаю сёньня кожнага з вас, мае дарагія суродзічы, – зрабіце сваёй мэтай спрычыніцца да волі зямлі вашых продкаў і да лепшай долі вашых унукаў і праўнукаў. Каб усе мы маглі разам марыць пра тую Беларусь, пра якую марыў і беларускі народ, калі прыняў Акт 25 сакавіка 1918 году.*

***Жыве Беларусь!***

***Івонка Сурвілла**,*
*Старшыня Рады БНР.*
*Сакавік 2015 г.*

**25 Сакавіка 1918-2015**

# ДЗЕНЬ ВОЛІ

## ЗАПРАШАЕМ
**на святкаванні ў Беластоку**

### 22.03.2015 (нядзеля)

$8^{00}$ **Царква Агія Сафія ў Беластоку, вул. Травяста, 5** — Св. Літургія, пасля першай Літургіі — малебен за беларускі народ і юбілей 90-годдзя Віктара Шведа.

### 25.03.2015 (серада)

$18^{00}$ **Кафэ „Zmiana Klimatu” вул. Варшаўская, 6.**
У праграме м.інш: канцэрт беларускіх песняў.

**Запрашаюць:**
Радыё Рацыя,„Ніва”, АБ-БА,
Беларускі саюз, Беларускае
Гістарычнае Таварыства, БАС.

# Каго вінаваціць?

Некалькі год таму ліквідавалі пошту ў Чаромсе. Тэрыторыю Чаромхаўскай гміны даручылі абслугоўваць пісьманосцам кляшчэлеўскай пошты. Не стану шукаць прычын такога рашэння. Мяне цікавіць нешта іншае: тэрміновае выконванне паштовых паслуг. І тут мае заўвагі наконт пастаўкі пасылак. Вось прыклад.

У пачатку сакавіка г.г. было мне выслана службовае пісьмо з бюро абаронцы грамадзянскіх правоў у Варшаве. У час тэлефоннай размовы, якую я правёў па інфалініі 12 сакавіка, мне сказалі, што адказ паслалі поштай тыдзень таму. Я пісьма не атрымаў. У той жа дзень сустрэў я на чыгуначнай станцыі свайго пісьманосца Марка Маркевіча і запытаў, ці не было да мяне ліста з Варшавы. Адказ быў адмоўны. «Можа ў панядзелак будзе?» — заявіў пры развітанні.

Падаўся я дамоў. Стаяла халоднае, ветранае надвор'е. Імжыў дождж. На адвячорку, калі падаваўся на вёску, прыкмеціў у куточку брамы з боку агароджы нейкую паперу. Гэта было пісьмо з Варшавы, якога я чакаў. Раскіслы канверт, ды і пячатка пад подпісам на лісце нечытабельная. Хто і калі запіхнуў службовую карэспандэнцыю ў агароджу, цяжка сказаць. Мой суразмоўца, згаданы пісьманосец, заявіў у размове, што апрача яго пасылкі даручае «канкурэнцыя», але фірмы не назваў. Гэта не адзіны прыклад затыкання карэспандэнцыі ў брамку. Раней такое таксама здаралася. Бывала і так, што чужы ліст трапляў да мяне і я пасля вымушаны быў даручаць яго адрасату. Памылкі аднак здараюцца кожнаму. Гэта не праблема. Але, каб лісты пакідаць у агароджы пад адкрытым небам, гэта скандал. Такія пасылкі, на маю думку, павінны трапляць адрасату да ўласных рук, або ў паштовую скрынку для таго прызначаную.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Адгаданка

1. адзінка электрычнага супраціўлення, 2. горад Сакрата Яновіча, 3. буйны бакавы адростак дрэва, 4. горад між Мінскам і Берлінам, 5. муж царыцы, 6. строгая вымова (быццам *nagana*), 7. псуецца з галавы, 8. хвойнае вечназялёнае дрэва, 9. моцнае захапленне, пачуццёвая цяга, 10. чучала для адпужвання, напрыклад, птушак, 11. ручная рычажная вага, 12. сродак уздзеяння, якога словатворны корань у п. 11.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 1 | | | | |
| 2 | | | 3 | 4 | | | | | | 5 | 6 |
| | | | | 7 | | 8 | | | | | 9 |
| 10 | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | 11 | 12 | | | |

У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. (ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 9 нумара**

Гук, Кіеў, купец, нюх, паяц, рукаў, стан, шынель.

Рашэнне: **Не пагрукаўшы ў сценку хаткі не купляюць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1300 egz.

# 22.03 — 28.03

**(22.03. — 20.04.)** Аддай як найбольш часу адпачынку. Але ненайлепшы час для прапановы рукі і сэрца, для заключэння дзелавых саюзаў і аб'яднанняў. Калі на гэтым тыдні ў цябе зламаецца пазногаць на сярэднім пальцы левай рукі — гэта вельмі нядобрае прадвесце, звязанае са стратай грошай або здароўя. Каб нейтралізаваць негатыўную энергетыку гэтай прыкметы, трэба стаць перад вялікім люстрам і зрабіць тры поўныя абароты вакол сябе ў правы бок. 26-30.03. не ўводзь ніякіх змен, дбай аб кожную дэталь.

**(21.04. — 21.05.)** Тыдзень будзе бурны: чакае цябе мора эмоцый, праўда, не заўсёды станоўчых. Вялікая верагоднасць таго, што папросяць цябе заплаціць па старых рахунках. Не афішуй уласных планаў і трымай язык за зубамі. У панядзелак трымай ва ўсім меру, асабліва гэта тычыцца вострай і салёнай ежы. У аўторак адкрыюцца перад табой новыя магчымасці, аднак разгледзь усе шляхі адступлення. 26-30.03. не раскідвайся грашыма.

**(22.05. — 22.06.)** 21-24.03. дзякуючы канцэнтрацыі і адпаведнай стратэгіі ўдасца выправіць шмат мерапрыемстваў. Рыхтуйся да пастаянных тэлефонных званкоў, нечаканых гасцей і выпадковых сустрэч — усім схочацца нагадаць пра сябе адразу і менавіта ў гэты час. Калі ілжывы гонар перашкаджае табе спыніць сварку з каханым чалавекам, то на гэтым тыдні зрабі першы крок да прымірэння.

**(23.06. — 23.07.)** Урэшце цябе дацэняць! На гэтым тыдні можаш атрымаць поспех у справах, звязаных з пасрэдніцкімі дзеяннямі або аказаннем паслуг. Удалымі будуць кантакты з вялікімі ўстановамі або дзяржаўнымі агенцтвамі. Паспрабуй знайсці выгаду і ў кантактах з любымі іншымі ўстановамі.

**(24.07. — 23.08.)** 23-27.03. выкажашся арганізацыйнымі здольнасцямі і возьмешся за нялёгкія рашэнні. Час успамінаў і одуму — пасля не будзеш паўтараць сваіх памылак. 22-26.03. дасягнеш штосьці, што да гэтага часу здавалася табе немагчымым! Няблага ў фінансах, тым больш што не будзеш мець вялікіх выдаткаў.

**(24.08. — 23.09.)** Да 24.03. падмацуецца твая самаўпэўненасць і сіла пераканання. Можаш пазнаёміцца з кімсьці, хто адыграе ў тваім жыцці вялікую ролю. 22-26.03. вельмі шмат нагод для рамантычных сустрэч і дагаджання сабе. Самотная Дзева пераканаецца, што старое каханне не ржавее. Лепшыя лады ў хаце. Толькі што можа пабольваць табе галава (прымяні акупрэсуру).

**(24.09. — 23.10.)** 22-26.03. перажывеш многа фантастычных уздымаў, прытым будзеш мець адчуванне свабоды. На працы крыху нервова, але не дай сябе вывесці з раўнавагі. Дбай аб рэлакс, слухай музыку.

**(24.10. — 22.11.)** 21-24.03. — умеласць хуткага і паспяховага рашання складаных праблем. 23-24.03. вельмі ўдалыя ачышчальныя працэдуры, добры час на візіт у дантыста. Захавай сакрэты, калі гаворка пра твае выдаткі, крэдыты, ашчаднасці. Блізка цябе паявіцца асоба, якая схоча цябе ўкрунуць у штосьці несумленнае.

**(23.11. — 22.12.)** З 26 (да 30.03.) старайся захаваць раўнавагу; пустыя абяцанні. Узбуджэнне і нецярпенне, з якімі ты гатовы фінансаваць любую ідэю, могуць прынесці табе ў канчатковым рахунку сур'ёзныя страты. Калі маеш справу з буйнымі матэрыяльнымі сродкамі, табе неабходна больш за сем разоў падумаць, перш чым аддаць у чужыя рукі свае крэўныя зберажэнні. У панядзелак варта паклапаціцца пра бяспеку — сваю і сваіх блізкіх.

**(23.12. — 20.01.)** 23-27.03. можаш зрабіць важныя змены. Цяпер свае намеры ажыццявіш лёгка, без лішняга стрэсу. Тыдзень добры, напоўнены паездкамі, моцнымі эмоцыямі і бурнымі праявамі пачуццяў. Выкарыстоўвай свае творчыя здольнасці, каб знайсці новыя ідэі і напрамкі дзейнасці. Не шкадуй часу на забаву.

**(21.01. — 19.02.)** 23-27.03. урэшце пачнеш збіраць плады сваёй працы. Зрэалізуеш свае амбіцыі, абароніш інтарэсы, адбудуеш веру ў сябе. Больш часу прысвяці свайму дому.

**(20.02. — 21.03.)** 22-26.03. не праваронь ніякай нагоды. Прадбачваюцца новыя шанцы, а твае дзеянні прынясуць удалыя рэзультаты. Будзеш кемлівы і рашучы, шмат што аформіш з поспехам. Не збочвай з абранай сцежкі!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# ГАЙДУК NIE PRZEJDZIE?



Тры гады пасля смерці Уладзіміра Гайдука едзем у ягоны Тарнопаль. 8 сакавіка ў аднаўленай самаўрадавай святліцы новая солтыска Уршуля Гайдук, як адзначае неўзабаве радны Садоўскі, які пяць тэрмінаў тут салтысаваў раней, «пад яго заказ» выбрана на гэтую пасаду, бо «патрэбная новая кроў», з ім разам ды дырэктаркай Гміннага цэнтра культуры ў Нараўцы запрасілі перш за ўсё жанчын з усіх тарнопальскіх прысёлкаў на іхняе свята. Застаўленыя смакоцем доўгія сталы, і яшчэ адзін стол — для калег па пяры святой памяці Уладзіміра, моцнай гміннай аматарскай літаратурнай групы, якую падмацоўвае Валя Мядзведзь, і з якой часта ездзяць па вёсках на сустрэчы ў святліцах некаторыя «белавежцы». Сёння і яны дакінуцца не толькі словам, але і ласункамі да каляровых сталоў.

Заязджаем намнога раней у халодны сакавіцкі поўдзень. На ўскраіне пушчы нашмат мацней трымае маразок. У святліцы завіхаецца мілавідная маладая солтыска (мама траіх дзяцей) разам са сваёй матуляй. Грэюць застуджаную святліцу. Абяцаюць, што будзе тут штораз цяплей, калі пачнуць яе наведваць жыхары.

— А адкуль вы ведалі пра нашу імпрэзу? — дапытваецца радны-католік Станіслаў Садоўскі. — І па-якому будзем гаварыць, па-польску ці па-нашаму? Як пачну па-нашаму, дык будзе мне можа крыху плёнтацца. Але ўмею і па-беларуску, і па-руску, бо маю такую працу, што на Свіслач езджу. Адрамантавалі мы святліцу, хораша, а была вельмі доўга зачыненая. Пасля, калі жыхары будуць хацець, можна будзе арганізаваць нейкія майстар-класы для гаспадынь, пячэнне бабкі ці чаго там яшчэ са страў. Але пакуль гэта яшчэ пачатак. Я моцна заангажаваўся, каб тут нейкі рух быў. Я цяпер схаджу пераадзягнуцца, кусок хлеба з'есці, і зараз вярнуся, прывітаю гасцей. А вы, дзяўчаты, тут падкладвайце ў печку, каб цёпла было. Запрасілі мы жанчын са Старога Двара, з былой Лукі, Слабодкі — там у іх няма святліцы, і нават няма каму яе будаваць, дык я сюды іх запрасіў.

Паводзіць сябе тут як гаспадар — ён жа тут адзін з лепшых земляробаў (трыццаць пару гектараў), гадоўцаў кароў, займаецца таксама сур'ёзным міжнародным гандлем — на шырокіх пуцях у Беларусь і з Беларусі ездзіць ягоны цягнік з таварам. Сур'ёзная справа. Таму і выбралі яго ўжо другі раз жыхары на раднага — разбітны ён чалавек, які ведае чаго хоча і дасць рады ўсё «залатвіць». Каб радным быць, трэба нямала наварушыцца, і якая адказнасць перад выбарцамі. А сярод паэтаў — другі радны з Нараўчанскай гміны, ляўкоўскі Янка Целушэцкі, хаця таксама бадзёры і поўны задум, але, здаецца, не такі напорысты, як ягоны калега. І напэўна не такі маёмасны. Што ж, бегаў больш за чужымі справамі, чым за сваімі. Але і тутэйшую справу прабаваў



■ Ганна Кандрацюк і Міраслава Лукша віншуюць юбіляра з днём народзінаў на родным хутары Уладзіміра Гайдука



■ Польска-беларускі літаратурны семінар «Бязмежжа» 2007 у Новым Ляўкове; злева: Мікола Ваўранюк, Уладзімір Гайдук, Юрка Гумянюк, Алесь Аркуш

быў на Гміннай радзе ў Нараўцы прабіць Янка — выступіў за тое, што прапанавалі жыхары Тарнопаля — назваць новую вуліцу ў вёсцы імем славутага земляка. І на той гміннай радзе тутэйшы радны запратэставаў, каб вуліцу назваць імем нейкага вясковага дзівака ды бедняка, які кепска ўспамінаецца жыхарамі. Проста, на думку спадара Садоўскага, Уладзімір Гайдук нявартьі таго, каб яго імем назваць вуліцу.

Яшчэ да пачатку імпрэзы пытаемся ў суседзяў, як яны памятаюць Валодзю і ці не супраць таго, каб у вёсцы была ягоная вуліца.

— Няхай будзе лепш нейкая Яловая ці Бярозавая, — кажа жвавая цётачка Яўгіння, таксама з прозвішчам Гайдук. Найбліжэйшая суседка паэта. — Або чаму не назваць усю нашу дарогу вуліцай Гайдукоў? Там таксама жыў ягоны дзядзька Мікалай. Чым ён заслужыўся? Звычайны земляроб быў, сумленны чалавек. А за што гэтаму даваць вуліцу? Як можна даваць вуліцу мёртваму чалавеку?..

— Я мала ведала яго, — кажа досыць маладая жанчына, таксама суседка з Полымя. — Мала яго і бачыла. Калі ішоў з крамы, няраз памагала яму торбу несці з пакупкамі, бо ўжо слабенькі быў. Ці я супраць таго, каб вуліцу назваць яго імем? Чаму ж не. Але лепш хай будзе так як у іншых вёсках, вось у Семяноўцы ёсць Ліпавая, Ясеневая, Лугавая... Прыгожа. Яшчэ каб ён быў нейкі вельмі важны чалавек, генерал ці хто...

— Я сама родам з Міклашэва, — кажа мама солтыскі, — то яго я мала ведала. Але гэтыя пані напэўна яго знакі добра. А вы па-свойму гаварыце! Я каталічка, а не цураюся беларускай мовы.

— Што я помню пра Гайдука — прозвішча ў яго Гайдук, а мянушка «Паэт», бо вершыкі пісаў. У «Ніву». Што я пра яго памятаю? — дадае яго найбліжэйшая суседка Яўгіння. — Не скажу, што надта добра, не скажу, што надта кепска. Вершы чытала. Вершы там былі розныя. І добрыя, і кепскія. Яго труднае было жыццё. Самотны быў. Так жыццё пражыў. А чом каб вуліцу Уладзіміра Гайдука? Яго ж ужо няма. Хутчэй імя тых старых, калісьних даць, каб памяталі. Быў там Мікалай Гайдук — найстарэйшы. Нармальны гаспадар, як і Уладзімера бацько Андрэй. Былі яны дваюрадныя браты. Яны паходзілі з Каляснога. Іхнія бацькі купілі тут у Тарнопалі зямлю. Было іх тут чатыры радзіны. Усе былі свае. А мы, то, вядома, іхняе другое пакаленне на Полымі. Гайдукі, Полыме, Чарчэй. А Чарчэй з таго, што лучане мелі тут лонку, і так яе назвалі. А пра тое, ці мае быць вуліца Уладзіміра Гайдука, я не рашаю. Няхай *дэцыдуюць* маладыя. Я неўзабаве памру, мне ўжо вуліца непатрэбна будзе. А маладыя як сабе хочуць. А на памятку няхай будзе вуліца ўсіх Гайдукоў, калі б ужо.

— Там Гайдукі. А мы тут у цэнтры Тарнопаля. Вёска пабіта на «дзяльніцы». Во гэты хлопцы са Старога Двара.

Падыходзіць старэнькая Вера Федарук.

— Я ўжо думала, што не прыйду, бо кепска так чулася, з гэтым пазваночнікам, так на кожную пагоду. Ці я помню Валодзю Гайдука, яго тату Андрэя і маму Марыю? Чом не ўтрымліваў кантактаў? Да нас любіў прыходзіць. Заўсёды прывітаўся, калі прыйдзе ў краму. То быў чалавек, які ўсё знаў, але завельмі кантактаў з людзьмі не трымаў. Усе яму папросту ўсе якія ворагі былі... Са мною то ён добры быў, бо і прыходзіў, і частаваўся з маім чалавекам Федзікам. Файны быў, як яшчэ малодшы быў. Мой Федзя яго ў сваты вазіў у Рэпіскі, да брата дваюраднага дачкі.... Калі ў нас яшчэ школа была, прадстаўленні рабілі, і ён таксама прадстаўляў. Спявалі, прадстаўлялі, тады, як кіраўніком Навіцкі быў... А ў апошні час, калі Валодзя ўжо слабенькі быў, — прыйдзе ў краму, павітаецца, папытаецца... Школа трыццаць гадоў у нас у Тарнопалі была. Усё знаёмыя, сябры. Мой Федзік любіў выпіць, пасняваць, для яго не было ні лепшых, ні горшых, быў такі аматар кампаніі. А Валодзя ў гэтай суседкі, свякрухі солтыскі, такая добрая баба, нават вады ў яе не папрасіў. А калі б не яны, то і ніхто не ведаў бы, што памёр. Такое жыццё чалавека. Калі б трымаў кантакт... Мае суседкі, напрыклад, Марыся і Лідка, дзівяцца, ці ў мяне ідзе дым з коміна, ці я хаджу... Была я ў Канадзе, і мовы не знала, але свая хатка як родная матка. Кругом харашо, вы, дарагія кабеты, але найлепей — дзе свае гняздо. Старога дзерава не перасаджваюць. А Валодзя ні да дактароў, ні да людзей, і хуценька так адышоў. Такі лёс яго... Чытала я яго вершы. І ў тэлебачанні глядзела, як яго паказвалі. Ганарылася, што наш Валодзя гэта хтосьці. Мондры быў чалавек, начытаны. Але кожны чалавек мае якісь боль у сабе. Добра, што цяпер мы яшчэ спатыкаемся. Бо хвароба раз, леты — два, і невядома калі прыйдзецца спаткацца наступны раз...

— А што я памятаю пра Уладзіміра Гайдука? — далучаецца суседка, што жыве ў белай мураванцы. — Заснуў у хаце. Беларускі пісьменнік быў. Пісаў вершы, на конкурсы ездзіў як малады быў. Як сусед добры ён быў. Прыязны. Вершаў яго не чытала, бо літаратурай не цікавілася. Жыву ад яго з кіламетр, бо я тут пры дарозе, а ён на хутары, у карчах. Наконт вуліцы яго — *як найбардзей*, магла б быць. Нават магла б быць гэтая вуліца, што ідзе ад маёй мураванай хаты на Полымя....

**— To nie przejdzie! — кідае праходзячы каля нас ужо ва ўрачыстай апратцы тарнопальскі радны. Ён абяцае не дапусціць таго, каб у Таропалі імя Гайдука атрымала новая вуліца ў бок Семяноўскага возера.**

Чытанне вершаў нараўчанскіх паэтаў працягвалася дзве гадзіны за багатым застоллем. Да жанчын далучыліся яшчэ спадары Пучынскія з Новага Двара, якія падтакнулі прапанове названня вуліцы імем паэта. Пры дадатковым абмеркаванні вечарыны — выстаўцы рукадзельных прац Галіны Бірыцкай — на пачатку прагучалі вершы земляка. Здаецца, раней ніколі не чулі іх так многа ў ваколіцы былога «Клуба рольніка» і славутай крамы, да якой вядуць усе дарогі. Некаторыя слухачкі змахнулі з-пад вока слязу. А неўзабаве трэба будзе сапраўды прагаласаваць у Тарнопалі, хто дэталёва з жыхароў вёскі хоча, каб такім чынам увекавечыць свайго славутага земляка. Гэта быў бы рукатворны помнік чалавеку, які ўсхваліў гэтую зямлю. А гэтага грашыма не змераеш.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

ISSN 0546-1960